КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 47 (368) ◂ 13 снежня ◂ 2013 г.
www.novychas.info

# Новы Час

ISSN 2218-2144



З ЛЮБОЎЮ ДА ДЗЯЦЕЙ
Стар. 5

**БЕЛАРУСКІ ВАРЫЯНТ FAILED STATE**

Спробы здзейсніць мадэрнізацыйны рывок за кошт падвышэння адказнасці кіраўнікоў нідзе і ніколі не прыводзілі да жаданага выніку

Стар. 4

**ДАНБАС СУПРАЦЬ МАЙДАНУ?**

Пра рэакцыю на Еўрамайдан у вотчыне Партыі рэгіёнаў журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з данецкім прафсаюзным актывістам Іванам Сурынам

Стар. 13

**ТРАГІЧНЫ ЛЁС РАРЫТЭТАЎ**

Стар. 15

**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

**ДА НОВАГА ГОДА ВЫ ЯШЧЭ МОЖАЦЕ ПАДПІСАЦЦА НА «НОВЫ ЧАС» ПА СТАРЫХ КОШТАХ!**

З НАГОДЫ

# НАЗАД У БУДУЧЫНЮ

Сяргей ПУЛЬША




**Ніхто не думаў, што чарговая і, здавалася б, шараговая нарада па пытаннях праблемаў будаўнічай галіны для самога Аляксандра Рыгоравіча з'яўляецца настолькі знакавай падзеяй. Больш за тое, хутка такія нарады, паводле меркавання кіраўніка дзяржавы, павінны набыць усёабдымны, маштабны, і, не пабаюся гэтага слова, сусветны характар. Прынамсі, так бачыць праблемы Беларусі Аляксандр Лукашэнка.**

Здавалася б, ну што такое нарада? Ну, у чарговы раз дакладуць кіраўніцтву пра праблемы галіны, пасыплюць галаву попелам і паабяцаюць у бліжэйшы час вырашыць усе праблемы. Як звычайна, невытлумачальны «бліжэйшы час» расцягнецца невядома наколькі, бо, як кажа старая савецкая мудрасць, няма нічога больш сталага, чым часовыя цяжкасці. На наступнай нарадзе зноў паабяцаюць, зноў нешта зробяць, але нешта недаробяць. Ізноў пасыплюць галаву попелам — і гісторыя пяройдзе на новы віток гэтага этапу.

Але ж для нашага правадыра такая нарада — гэта падзея. Гэта магчымасць у чарговы раз паказаць, хто ў доме гаспадар, магчымасць прадэманстраваць, што кароль добры, баяры ж кепскія. І таму «сеансы накачкі чыноўнікаў» трэба паставіць на больш сталую аснову. Але прыклад для гэтага Лукашэнка выбраў яўна няўдалы.

Аляксандр Рыгоравіч назваў гэтае мерапрыемства знакавай падзеяй і прызнаўся, што яно бачыцца яму своеасаблівым аналагам пленума Цэнтральнага Камітэта Кампартыі ў савецкія часы, калі з усіх рэгіёнаў збіраліся кіруючыя кадры і адкрыта абмяркоўвалі, сумесна вырашалі важнейшыя пытанні жыцця грамадства. У Беларусі пленумам ЦК павінен стаць фармат рэспубліканскай нарады.

«Такога фармату і шырокага складу ўдзельнікаў патрабуюць як актуальнасць тэматыкі, так і неабходнасць усебаковага абмеркавання рэальнай сітуацыі ў вельмі важных сферах дзейнасці, каб дайсці да кожнага рэгіёна, кожнай арганізацыі. Стаіць задача ўзняць і прапанаваць вырашэнне найбольш злабадзённых і значных для людзей пытанняў развіцця эканомікі і грамадства не толькі на сённяшні дзень, але і сярэднетэрміновую перспектыву», — сказаў Лукашэнка. Ён лічыць, што неабходна часцей, як мінімум раз на паўгода, збірацца ў такім складзе, каб на сістэмнай аснове даваць сігналы ўсяму грамадству аб праблемах, што ўзнікаюць, і шляхах іх вырашэння.

Падаецца, што ключавое выслоўе тут — «даваць сігналы». Таму што «ўзнімаць злабадзённыя і значныя для людзей пытанні» бессэнсоўна. Для гэтага трэба не нарады збіраць, а проста прайсціся па крамах, паглядзець на кошты, зазірнуць у жыроўкі, параўнаць, колькі мы плацім за ўсё і што за гэта мы атрымліваем. Злабадзённыя і значныя пытанні ўзнікаюць не на нарадах. На нарадах узнікаюць глупствы кшталту выязной пошліны ў сто долараў альбо планы па імгненным увядзенні тэхрэгламенту Мытнага саюза для прадпрымальнікаў.

Што тычыцца «шляхоў вырашэння», то тут не шляхі шукаць трэба, а вырашаць праблемы. Вырашаюцца ж праблемы, зноўку, на месцах, а не ў прэзідыумах.

Дый вялікае пытанне, ці вырашала нейкія праблемы ЦК КПСС? Ці было там «адкрытае абмеркаванне» і «сумеснае вырашэнне важнейшых пытанняў жыцця грамадства»? Тыя, хто памятае гэтыя пленумы, ведае, што, сапраўды, нічога апроч «сігналаў» на іх не было. Нельга сказаць, што жыццё ад гэтых пленумаў рабілася лепшым і весялейшым. Пра ролю ЦК КПСС у жыцці народа адказваў сам народ. Прыкладам, па-руску адказ на пытанне: «Што такое ЦК КПСС», гучаў так: «*ЦК КПСС — набор глухих согласных*». Гэта тычылася як лінгвістычнага складніку, так і персанальнага складу ЦК КПСС. Ніякіх «прарываў» ад «глухіх» і «згодных» чакаць не даводзілася.

Для чаго ж Аляксандру Рыгоравічу спатрэбілася ЦК КПСС? Ды проста для таго, каб напусціць пылу ў вочы і паказаць, што ён, нібыта, кіруе дзяржавай. Хаця па таму, як выконваюцца ягоныя даручэнні, можна смела сцвярджаць — няшмат чым ён і кіруе. Інакш проста не было б гэтай нарады, а ўсе пытанні будаўнічай галіны вырашыліся б пасля аналагічных мерапрыемстваў, якія прайшлі не далей, як у чэрвені гэтага года.

Для таго, каб праверыць эфектыўнасць «ЦК КПСС» у беларускіх умовах, трэба паглядзець на вынікі рэспубліканскай нарады: што ж мы маем у сухім астатку?

Аляксандр Лукашэнка паведаміў, што кошт квадратнага метра жылля па дзяржзамове ў 2014 годзе будзе роўны сярэднямесячнай зарплаце па краіне — гэта ён абяцаў неаднаразова. Ён забараніў ураду і мясцовым уладам самастойна ўключаць праекты ў дзяржаўную інвестыцыйную праграму. Запатрабаваў ад урада дзве рэчы: забяспечыць увядзенне ў Беларусі кантролю допуску на рынак арганізацый і спецыялістаў, якія працуюць у будаўнічай сферы, і ўвесці абавязковае рэзерваванне сродкаў падрадчыкаў для ліквідацыі магчымых дэфектаў пры будаўніцтве. І паведаміў, што ў Беларусі будзе распрацавана і зацверджана тыпавая дамова, якая павінна заключацца паміж грамадзянамі і забудоўшчыкамі пры будаўніцтве жылля. І, канешне ж, ужо па звычцы, у чарговы раз запатрабаваў, каб сітуацыя з «праблемнымі будоўлямі» вырашылася да лета 2014 года.

Можа быць, камусьці ад гэтых патрабаванняў і распрацовак і стала лягчэй. Але, як бачым, ніводных канкрэтных мераў па рашэнні надзённых праблем грамадзянаў прынята не было.

Штосьці з запатрабаванага, можа, палепшыць сітуацыю ў будучыні, але кардынальна яе наўрад ці зменіць. Так і застанецца будаўнічая галіна, па словах кіраўніка дзяржавы, «паедзеная іржой карупцыі». Аніякай нарадай гэтага не вырашыш.

А што далей? А далей Лукашэнка даручыў ураду сумесна з Адміністрацыяй прэзідэнта ўнесці прапановы па галіновай тэматыцы для наступных нарад. На думку кіраўніка дзяржавы, першачарговага разгляду патрабуюць праблемы ЖКГ і развіццё аграпрамысловага комплексу.

З гэтага мы атрымалі толькі ясны «сігнал», каго наступным разам збірацца папракаць Аляксандр Рыгоравіч. Яўна гэта будуць не аграры. Па-першае, роўна праз паўгады якраз час садзіць бульбу, а па-другое, адрываць аграрыяў ад пасяўной Лукашэнка не наважыцца. Так што рыхтавацца да разносу трэба працаўнікам ЖКГ.

ДАКЛАД

# ПРАЦОЎНЫЯ ПРАВЫ ПАРУШАЮЦЦА

Генадзь КЕСНЕР

**10 снежня Міжнародная федэрацыя правоў чалавека (FIDH) і Праваабарончы цэнтр «Вясна» разам з іншымі калегамі прадставілі журналістам даклад «Беларусь. Паўсюдныя парушэнні працоўных правоў і прымусовая праца ў Беларусі».**

У падрыхтоўцы даклада прынялі ўдзел таксама Беларускі Хельсінскі камітэт (БХК), «Платформа Інавэйшн», Беларускі кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў (БКДП).

Справаздача канстатуе, што ў Беларусі існуюць глыбокі крызіс у сацыяльна-эканамічнай сферы і паўсядзённыя парушэнні працоўных правоў грамадзянаў Беларусі. Некаторыя прэзентанты заявілі, што ў нашай краіне апошнім часам нават патыхае рабаўладальніцтвам. Гаворка пра кантрактную сістэму.

«Гэтыя кантракты не проста супярэчаць палітыцы Міжнароднай арганізацыі працы, але і ставяць нашых працоўных у становішча, калі яны цалкам залежаць ад працадаўцы. Наша краіна ў гэтым плане робіцца вельмі адсталай», — лічыць кіраўнік БКДП Аляксандр Ярашук.

Прымусовая праца ў Беларусі, якая фактычна забароненая нават тутэйшай Канстытуцыяй, а не толькі міжнароднымі дакументамі, вельмі шырока распаўсюджана ў нашай краіне, адзначыў намеснік старшыні ПЦ «Вясна» Валянцін Стэфановіч. У прэзентаваным дакуменце, распаўсюджаным выступоўца, утрымліваецца вельмі шмат выказванняў не толькі прэзідэнта, але і іншых высокапастаўленых асобаў, якія фактычна выступаюць за прымусовую працу грамадзян, а гэта, што крыху пазней яшчэ раз падкрэсліў кіраўнік юрыдычнай камісіі БХК Гары Паганяйла, катэгарычна забаронена нават дзейным беларускім Асноўным законам.

Юрыст Павел Сапелка закрануў моманты парушэнняў такіх правоў ва ўстановах пенітэнцыярнай сістэмы Беларусі. Паводле яго, асобы, якія знаходзяцца ў следчых ізалятарах ці ўжо асуджаныя, яшчэ больш пазбаўленыя сваіх правоў параўнальна з грамадзянамі, што знаходзяцца на волі і якіх прыцягваюць да прымусовае працы. Вязні не могуць страйкаваць, звальняцца, не маюць магчымасці падаваць у працоўную эміграцыю і нават не маюць магчымасці змяніць прэзідэнта і парламентарыяў, таму што пазбаўленыя права голасу.

Апроч таго, пры нясенні вайсковай службы вайскоўцы прыцягваюцца да неаплатнай працы, не звязанай з выкананнем воінскага абавязку, «будуючы аб'екты для алігархаў». А чаго вартыя толькі добраахвотна-прымусовыя суботнікі, ладжаныя рэспубліканскімі ці рэгіянальнымі ўладамі!

Вялікую заклапочанасць выклікае ў праваабаронцаў «устойлівая дыскрымінацыя і стыгматызацыя асобаў з алкагольнай або наркатычнай залежнасцю» і прыцягненне іх да прымусовай працы.

Яшчэ адна катэгорыя прымусовых працаўнікоў — выпускнікі дзяржаўных навучальных установаў, якія размяркоўваюцца на працу пасля сканчэння вучобы да трох гадоў. Размеркаванне не падлягае абскарджанню, а пазбегнуць яго можна толькі вярнуўшы дзяржаве кошт навучання, прычым кошт налічваецца дзяржавай непразрыста і з улікам інфляцыі прыводзіць да сумаў, якія многія выпускнікі не ў стане выплаціць.

Гары Паганяйла звярнуў увагу: «Канстытуцыя Беларусі пры гэтым гарантуе ў артыкуле 49: «Сярэдняя спецыяльная і вышэйшая адукацыя даступная для ўсіх у адпаведнасці са здольнасцямі кожнага. Кожны можа на конкурснай аснове бясплатна атрымаць адпаведную адукацыю ў дзяржаўных навучальных установах». Але, відаць, гэтыя пастулаты галоўнага закону краіны для ўладатрымцаў — пусты гук.

ПАЛІТВЯЗНІ

# АЎСТРЫЙСКАЯ САЛІДАРНАСЦЬ

**10 снежня ў Вене Аўстрыйская Ліга за правы чалавека прэзентавала выніковую справаздачу «Высновы па правах чалавека 2013», абвясціўшы, што прысвячае яе віцэ-прэзідэнту FIDH Алесю Бяляцкаму.**

На старонцы, якая папярэднічае справаздачы, паведамляецца, што выданне прысвячаецца Алесю Бяляцкаму, і гэта прысвячэнне адрасуецца ўсім праваабаронцам, якія знаходзяцца сёння ў зняволенні. А на вокладцы выдання змешчаны плакат FIDH з заклікам да вызвалення беларускага праваабаронцы.

Традыцыя прысвячэння сябroўскімі арганізацыямі Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH) дакладаў аб сітуацыі з правамі чалавека Алесю Бяляцкаму, зняволенаму віцэ-прэзідэнту FIDH і кіраўніку ПЦ «Вясна», распачалася ў 2011 годзе пасля вынясення яму палітычна матываванага прысуду. У 2011–2012 гадах у розных краінах і кантынентах крэсла беларускага праваабаронцы пуставала падчас прэзентацый гадавой справаздачы аб сітуацыі з праваабаронцамі ў свеце, падрыхтаванай Абсерваторыяй па абароне праваабаронцаў.

spring96.org

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ПРАФІЛАКТЫЧНАЯ РАЗМОВА

**Кіраўнік Баранавіцкай гарадской прафсаюзнай групы РЭП Рыгор Грык 10 снежня быў выкліканы ў ГАУС на прафілактычную размову.**

«Шэсць месяцаў таму мяне ўжо выклікала для размовы начальніца ідэалагічнага аддзела Баранавіцкага гарвыканкама Таццяна Жытко, каб пераканаць у неабходнасці спынення грамадска-палітычнай дзейнасці», — паведаміў Рыгор Грык.

Цяпер прафсаюзнага актывіста выклікалі на размову ў грамадскі пункт аховы правапарадку № 3 (вул. Касманаўтаў, 6) ГАУС. Старшы лейтэнант міліцыі Аляксандр Зяньковіч паведаміў Рыгору Грыку, што на імя начальніка ГАУС палкоўніка Вячаслава Герасімовіча паступіла заява ад загадчыцы аддзела ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі Баранавіцкага гарвыканкама Вольгі Дудко. У гэтай заяве паведамляецца, што невядомыя асобы распаўсюджваюць у гарадскім транспарце і расклейваюць на гарадскіх прыпынках недзяржаўныя газеты і ўлёткі.

На пытанне супрацоўніка міліцыі: «Ці расклейваў Рыгор Грык газеты і ўлёткі?» грамадскі актывіст адказаў, што ён не парушае грамадскага парадку, а ўсё робіць па закону.

spring96.org

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# ЛАЎРЭАТЫ ПРЭМІІ АЛЯХНОВІЧА

Ева ВАЙТОЎСКАЯ

**10 снежня, у Дзень правоў чалавека, на сядзібе БНФ у Мінску ўганаравалі пераможцу і лаўрэатаў прэміі імя Францішка Аляхновіча. Галоўным атрымальнікам новай узнагароды стаў Ігар Аліневіч, аўтар кнігі «Еду ў Магадан». Лаўрэатамі прэміі таксама сталі Юры Бандажэўскі, Алесь Бяляцкі, Алесь Кіркевіч, Анатоль Лябедзька, Павел Севярынец.**

Прэмію Францішка Аляхновіча заснавалі два партнёры, якія сумяшчаюць літаратурную і праваабарончую дзейнасць, — «Радыё Свабода» і Беларускі ПЭН-Цэнтр. Менавіта гэта вызначыла аблічча прэміі. Яна будзе ўручацца за выдатныя літаратурныя творы, напісаныя ў зняволенні. Мэты прэміі — прыцягненне ўвагі да праблемы палітвязняў у Беларусі, пашырэнне інфармацыі з-за кратаў у грамадстве. Каб такога не паўтаралася...

На жаль, аўтары, якіх ганаруе прэмія Аляхновіча, прыйшлі на добра ўзаранае поле. «Турэмны» жанр — адзін з дамінантных у беларускай літаратуры на працягу яе развіцця, адзначыў вядоўца прэміяльнай цырымоніі Валер Каліноўскі. Пра гэта піша і Алесь Бяляцкі ў кнізе «Асвечаныя беларушчынай». Бяляцкі пачынае адлік беларускай «акрэсційнія» з «Ліста з-пад шыбеніцы» Кастуся Каліноўскага. Сумны шэраг, у якім апроч уласна Аляхновіча знаходзяцца Якуб Колас, Сяргей Грахоўскі, Славамір Адамовіч і многія іншыя беларускія літаратары, працягваюць і 12 намінантаў 2013 года. «Зэкі-літаратары» — так з горкай іроніяй называе іх (і сябе) Алесь Бяляцкі ў адным са сваіх эсэ.

Па словах дырэктара «Радыё Свабода» Аляксандра Лукашука, сум выклікае ўжо тое, што прэмія Аляхновіча ўвогуле была заснаваная, і, ёсць сур'ёзнае падазрэнне, не страціць актуальнасці ў блізкай будучыні. Выступаючы перад прысутнымі, маці пераможцы Валянціна Аліневіч назвала яе прэміяй, якую ніводная маці не пажадала б для свайго сына. Турэмны вопыт, на якім заснаваная такая літаратура, — надзвычай цяжкі не толькі для саміх вязняў, але і для іх блізкіх.

У траўні 2011 года анархіст Ігар Аліневіч быў незаконна экстрадзіраваны з Расіі ў Беларусь і асуджаны на восем гадоў за напад на пасольства Расіі ў Мінску і шэраг іншых экстрэмісцкіх акцый, вінаватым у якіх ён сябе не прызнаў. Адбывае пакаранне ў Навапалацкай калоніі. Свой досвед ён выклаў у кнізе «Еду ў Магадан», урыўкі з якой друкаваліся ў газеце «Новы час». Валянціна Аліневіч расказала, што сустракала людзей, якія не ведаюць імя яе сына, але чулі пра кнігу-пераможцу або нават чыталі яе. Дакументальную аповесць «Еду ў Магадан» перадаюць у расійскія і беларускія турмы: яна дадае людзям, асуджаным незаконна, мужнасці і ўпэўненасці ў тым, што змаганне з сістэмай мае сэнс. Электронная версія кнігі даступная ў інтэрнэце, на сайце abc-belarus.org. Яна ўжо цалкам перакладзеная на англійскую, сербскую мовы, рыхтуюцца польскі, іспанскі і французскі пераклады. Адной з узнагародаў для Ігара Аліневіча ў рамках прэміі стане выданне яго кнігі па-беларуску ў серыі «Бібліятэка Свабоды».

Аднак і іншыя намінанты прэміі не знікнуць з поля ўвагі журы. Арганізатары будуць сачыць за іх творчымі поспехамі, і тыя нататкі, якія не атрымалі высокіх адзнак журы ў 2013 годзе, змогуць трапіць у лаўрэацкі спіс пазней, калі аўтары дапрацуюць свае рукапісы.

ВЫСТАВА

# «ТВАЁ ПРАВА!»

Генадзь КЕСНЕР

**Да 20 снежня ў Артсядзібе (Мінск, Інструментальны завулак, 6-105) будзе працаваць выстава беларускіх фотажурналістаў — выпускнікоў спецыяльнага курса вядомага айчыннага фотамайстра Сяргея Грыца.**

Адкрыццё выставы невыпадкова адбылося 10 снежня — у Сусветны дзень абароны правоў чалавека.

Цягам трох месяцаў удзельнікі навучальнага курса паляпшалі сваё майстэрства, выпрацоўвалі аўтарскі стыль і вучыліся бачыць «незвычайнае ў звычайным».

На цырымоніі адкрыцця выставы выпускнікоў курса ад свайго імя і імя Сяргея Грыца з дапамогаю відэаскайпа павітаў адзін з ініцыятараў праекта, сябра Праўлення ГА «БАЖ» Юрась Карманаў. Чаму праз скайп? Зараз і Грыц, і Карманаў, якія працуюць у інфармацыйнай кампаніі «Associated Press», знаходзяцца ў Кіеве, дзе выконваюць свае прафесійныя абавязкі, асвятляюць падзеі, якія цяперашнім часам адбываюцца ў цэнтры сталіцы Украіны.

«Я віншую вас з рэвалюцыйнага Кіева з тым, што сёння адкрываецца вельмі важная выстава, якая называецца «Тваё права!». Гэты лозунг актуальны як для тых, хто здабывае інфармацыю, як для саміх фатографаў, так і для тых, хто спажывае навіны», — сказаў Юрась Карманаў. Паводле ягоных словаў, вельмі важна адстойваць сваё права на прафесію, адстойваць сваё права на інфармацыю, а таксама адстойваць правы тых, хто хоча атрымліваць аб'ектыўную інфармацыю, панараму дня, бачанне таго, што адбываецца ў нашай краіне і ў свеце. Менавіта таму БАЖ арганізаваў курс, каб сапраўдныя прафесіяналы перадалі свой досвед тым, хто або толькі робіць першыя крокі ў прафесіі, або жадае падняць свой прафесійны ўзровень. Вельмі важна, што адкрыццё выставы адбываецца ў Сусветны дзень абароны правоў чалавека, і гэта ў пэўным сэнсе абумоўлівае тэматычную скіраванасць нашай з вамі падзеі, зазначыў вядомы журналіст.

Яшчэ адзін з арганізатараў выставы, сябра БАЖ Андрусь Клікуноў падкрэсліў, што кожная з выстаўленых прац мае свой вельмі дакладны цікавы мэсідж і закранае тую ці іншую сферу ў галіне правоў чалавека.

На выставе «Тваё права!» прадстаўленыя найлепшыя працы выпускнікоў «грыцаўскага» курса — Алены Анкуда, Сяргея Балая, Ягора Гарая, Уладзіміра Грыдзіна, Дзяніса Зелянко ды Таццяны Пашковіч.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# НЕВЯСЁЛЫЯ ЛІЧБЫ

*Сяргей САЛАЎЁЎ*

**Мы ўжо звыкліся, што ўлада перад Новым годам, падводзячы вынікі мінулага, традыцыйна рапартуе пра поспехі ў «крыштальным сасудзе». Але гэтым годам нешта паламалася. Усё больш і больш змрочных лічбаў і прагнозаў — нібы нам знарок псуюць настрой перад святамі. Ці гэта робіцца, каб не расслабляліся?**




Белстат не радуе. Нягледзячы на тое, што, па дадзеных гэтай канторы, інфляцыя ў Беларусі ў лістападзе 2013 «запаволілася» да 1,6% з 1,9% у кастрычніку, мы ўсё роўна ўжо перакрочылі рысу. З пачатку года спажывецкія цэны выраслі на 13,8% пры гадавым прагнозе 12%.

У гадавым вылічэнні — лістападзе 2013-га да лістапада 2012 года — інфляцыя склала 15,3%.

Харчовыя тавары ў лістападзе 2013-га падаражэлі на 1,2% , з пачатку года — на 10,9%. Цэны на нехарчовыя тавары выраслі на 0,6% у лістападзе і на 6,8% — з пачатку года.

Цэны і тарыфы на платныя паслугі ў лістападзе 2013-га ў параўнанні з кастрычнікам павялічыліся на 3,7%, са снежнем 2012 года — на 32,6%.

Вядома, што рост цэнаў павінен нечым кампенсавацца. Напрыклад, ростам заробкаў. І Аляксандр Рыгоравіч пачаў размову пра такі рост заробкаў. Пакуль што толькі для адной катэгорыі насельніцтва — для чыноўнікаў. Таму што, у прынцыпе, заробак расце.

«Дзяржава штогод павышае заробак. Яшчэ не было таго года, у які б мы не падвышалі заробак. Мы штогод гэта робім. Але можна спрачацца: шмат гэта ці мала. На зарплату неабходна глядзець з пункту гледжання пакупніцкай здольнасці. Чаму ж мы не кажам пра тое, што за 500 долараў у Расіі можна толькі гібець у жабрацкім існаванні, а ў Беларусі яшчэ неяк можна жыць? Мы ж пра гэта не гаворым. Гэта таксама трэба ўлічваць», — параўнаў Лукашэнка.

**Але не такі беларускі народ, каб не знайсці выйсце ў любой сітуацыі. Трэба проста прадаць склады цалкам, разам з прадпрыемствамі. А ўжо што там на складах, хай разбіраюцца новыя ўладальнікі**

Ну, тут Аляксандр Рыгоравіч, з аднаго боку, мае рацыю, з іншага — робіць распаўсюджаную памылку, кажучы пра «жабрацкія 500 долараў». Памылка ў тым, што для Масквы 500 долараў — гэта сапраўды жабрацкі заробак, але ж Масква — гэта не тое што не ўся Расія, але, выбачайце мяне за такія словы, увогуле не Расія. Дзе-небудзь у Смаленску, Тамбове, ці ў Туле 500 долараў — можа і нармальны заробак.

Што ж тычыцца пакупніцкай здольнасці, то тут Аляксандру Рыгоравічу лепш было б прамаўчаць. У Расіі за 500 долараў нават у Маскве можна набыць значна больш тавараў, чым у Мінску. Інакш бы нашы прадпрымальнікі не ездзілі б туды «за шмоткамі».

«Я зусім не за тое, каб замарозіць зарплату, і дзяржаўныя служачыя яе не атрымлівалі. Я зусім не супраць, каб яна расла пастаянна. Але як мы можам растлумачыць людзям, што мы сабе павысілі зарплату пры такіх запасах прадукцыі на складах на трыльёны, калі мы яе не прадаем, не ўмеем прадаваць, чагосьці не зрабілі — як гэта мы людзям патлумачым? А прыйдзецца тлумачыць. Мне першаму, а потым вам, і вам будзе больш балюча, таму што вы з вока на вока з людзьмі», — заявіў Лукашэнка на нарадзе па праблемных пытаннях у будаўнічай галіны.

Сапраўды, паказчык дзейнасці кіраўніцтва — эфектыўнасць працы. Калі на складах запасы на трыльёны рублёў, трэба прымусіць аддзелы маркетынгу і менеджменту менавіта гэтымі запасамі і харчавацца.

Але не такі беларускі народ, каб не знайсці выйсце ў любой сітуацыі. І выйсце знойдзенае! Трэба проста прадаць склады цалкам, разам з прадпрыемствамі. А ўжо што там на складах, хай разбіраюцца новыя ўладальнікі.

Днямі паступілі звесткі, што канцэрн «Белнафтахім» задумаў перавесці на аўтсорсінг абслугоўваючыя і дапаможныя падраздзяленні падначаленых канцэрну прадпрыемстваў. Як паведаміла прэс-служба ведамства, гэтая праца будзе праводзіцца ў мэтах «эканамічнай мадэрнізацыі», аднак на практыцы гаворка можа ісці аб перадпродажнай падрыхтоўцы.

«У рамках працы па эканамічнай мадэрнізацыі вытворчасці ўрад даручыў канцэрну «Белнафтахім» у мэтах зніжэння выдаткаў на вытворчасць прадукцыі ажыццявіць у арганізацыях канцэрна перавод на аўтсорсінг асобных структурных падраздзяленняў, якія ажыццяўляюць функцыі па абслугоўванні асноўнай вытворчасці», — гаворыцца ў паведамленні канцэрна.

У прыватнасці, ААТ «Гродна Азот» ужо стварыла на базе сваіх падраздзяленняў унітарныя прадпрыемствы, якія будуць спецыялізавацца на аказанні яму будаўнічых, рамонтных і транспартных паслуг. На ААТ «Магілёўхімвалакно» пачалася праца па вылучэнні ў асобнае прадпрыемства рамонтна-механічнага завода.

Эксперты мяркуюць, што па сутнасці гаворка ідзе аб «ачыстцы» прадпрыемстваў канцэрна ад няпрофільных, нерэнтабельных альбо праблемных актываў, што дасць магчымасць не толькі палепшыць фінансавыя паказчыкі, але і прыкметна скараціць колькасць работнікаў, а дакладней, сацыяльны складнік, што адназначна прывядзе да павышэння капіталізацыі вытворчых актываў.

Пасля перадпродажнай ачысткі справа застанецца за малым — дамагчыся ў Лукашэнкі дазволу на продаж такіх актываў і не перабраць са стартавым коштам.

Так што, магчыма, нас чакае новы этап прыватызацыйнай істэрыкі. Нагадаем, што, напрыклад, з «Гродна-Азотам» ужо даўно ёсць дамоўленасць стварыць беларуска-расійскі холдынг. Хаця, насамрэч, пасля справы з «Уралкаліем» я б увогуле з Расіяй ніякіх сумесных прадпрыемстваў бы не ствараў. Потым вельмі доўга ўсё разграбаць прыходзіцца.

Але з іншага боку, грошы аднекуль браць трэба. Бо планаў у нас — вышэй даху. Напрыклад, Міхаіл Мясніковіч паабяцаў, што ў 2014 годзе крэдыты на будаўніцтва жылля для маючых патрэбу грамадзян будуць прадастаўляцца па стаўцы 16% гадавых. У сённяшні момант Беларусбанк дае крэдыты для маючых патрэбу па стаўцы 38,5%, Белаграпрамбанк — 45% гадавых.

Сярэдні заробак у Мінску да канца 2014 года дасягне 800 долараў у эквіваленце, паабяцала намеснік старшыні Мінгарвыканкама Жанна Бірыч.

А Аляксандр Лукашэнка ўнёс у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу праект бюджэту на 2014 год, які сфарміраваны бездэфіцытным па даходах і расходах. «Бюджэт, сапраўды, збалансаваны, узважаны і бездэфіцытны», — ужо ацаніла праект кіраўніца парламенцкай камісіі Людміла Дабрыніна.

Дзе ж на ўсё гэта грошы ўзяць? Толькі прадаць што-небудзь непатрэбнае…

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### УЛАДЗІМІР ЯРОМЕНАК



На тры месяцы ў Беларусі на аднаго палітвязня стала больш. Сябра «Маладога Фронту» Уладзімір Яроменак пайшоў адбываць 3-месячнае пакаранне за парушэнне прэвентыўнага нагляду.

Перад паходам у міліцыю, якая павінна накіраваць актывіста ў арыштны дом, Яроменак пагаліў галаву. Кажа, што зрабіў гэта сам, каб не галілі ў турме, бо там умовы горшыя, чым дома. «Я вырашыў так: валасы адрастуць, і акурат трэба будзе выходзіць на волю», — сказаў Яроменак.

На волі ў Яроменка застаецца цяжарная жонка Валянціна. Нараджаць ёй увесну, ужо пасля вызвалення мужа. Аднак Яроменак прызнаўся, што, нягледзячы на тое, што тэрмін невялікі, будзе моцна перажываць менавіта з-за жонкі: «Вядома, праз гэта буду перажываць, але ёсць жа сваякі, якія будуць з ёй побач».

Пакуль яшчэ не вядома, дзе менавіта будзе адбываць пакаранне Яроменак. Нагадаем, што раней Яроменак быў асуджаны за ўдзел у мітынгу 19 снежня 2010 года на 3 гады зняволення. У жніўні 2011 года быў памілаваны Лукашэнкам, але на волі не спыніў грамадскай дзейнасці. Некалькі разоў міліцыя затрымлівала Яроменка на акцыях салідарнасці з палітвязнямі, пасля чаго на яго быў накладзены прэвентыўны нагляд.

У жніўні суд Першамайскага раёна асудзіў Яроменка на 3 месяцы арышту за парушэнне прэвентыўнага нагляду. У лістападзе Мінгарсуд пацвердзіў гэтае рашэнне. Аднак справа ў тым, што той самы прэвентыўны нагляд, за парушэнне якога Яроменак быў асуджаны, быў зняты з былога палітвязня яшчэ напачатку кастрычніка.

### УЛАДЗІСЛАЎ БАЎМГЕРТНЕР



Сядзелец СІЗА КДБ, генеральны дырэктар «Уралкалія» Уладзіслаў Баўмгертнер пераведзены ў Маскве пад хатні арышт, і абзавёўся новым аксесуарам у выглядзе электроннага бранзалета. Пра гэта паведаміў прадстаўнік маскоўскага Упраўлення Федэральнай службы выканання пакаранняў Сяргей Цыганкоў.

«Басманны суд Масквы змяніў меру стрымання Баўмгертнеру на хатні арышт да 20 студзеня 2014 года», — сказаў ён. Да гэтага бізнэсмэн утрымліваўся ў СІЗА № 5. Цыганкоў распавёў, што Баўмгертнер будзе знаходзіцца пад кантролем супрацоўнікаў крымінальна-выканаўчай інспекцыі.

«У дачыненні да яго будзе ўжыта стацыянарная кантрольная прылада — электронны бранзалет, з дапамогай якога будзе ажыццяўляцца кантроль за Баўмгертнерам у кватэры», — сказаў прадстаўнік УФСВП.

Як растлумачыў афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта РФ Уладзімір Маркін, мера стрымання гендырэктара «Уралкалія» была зменена па хадайніцтве следства.

Калі ўжо маскоўскае следства само хадайнічала аб выпуску Баўмгертнера з турмы, то што будзе пасля 20 студзеня 2014 года? Падаецца, Баўмгертнера выпусцяць зусім. А беларускія спецслужбы ў чарговы раз сядуць у галош.

### ТАЦЦЯНА ДРАЗДОЎСКАЯ



Як вядома, у Беларусі мора няма. Але гэта не перашкаджае нашым спартоўцам перамагаць у, здавалася б, нязвыклых для іх відах спорту.

Беларуская яхтсмэнка Таццяна Драздоўская стала пераможцай этапу Кубка свету па ветразевым спорце ISAF. Спаборніцтвы прайшлі ў акваторыі ціхаакіянскага заліва Порт-Філіп у аўстралійскім Мельбурне. У рэгаце прынялі ўдзел больш за 200 яхтсменаў з усяго свету.

Драздоўская выступала ў класе «Лазер-Радыял» і па выніках 10 гонак, у шасці з якіх яна прыходзіла першай, атрымала ўпэўненую агульную перамогу. Беларуска набрала найменшую суму балаў — 19. Другое месца заняла кітаянка Донгшуанг Чанг з вынікам у 28 балаў, трэцяе — аўстралійка Крыстал Веір (32 балы).

Рэгата ў Мельбурне ўваходзіць у спіс спаборніцтваў па ветразевым спорце, якія ўлічваюцца пры падліку афіцыйнага сусветнага рэйтынгу яхтсменаў Міжнароднай федэрацыі ветразевага спорту (ISAF). Поспех у гэтай рэгаце дазволіць Таццяне Драздоўскай вярнуцца на першае месца міжнароднага рэйтынгу ISAF у класе «Лазер-Радыял». Беларуска ўзначальвала рэйтынг з 8 красавіка па 21 кастрычніка гэтага года, аднак у апошняй яго рэдакцыі, апублікаванай у кастрычніку, апусцілася на 3-е месца.

▸ АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# БЕЛАРУСКІ ВАРЫЯНТ FAILED STATE

Сяргей НІКАЛЮК

**Спробы здзейсніць мадэрнізацыйны рывок за кошт падвышэння адказнасці кіраўнікоў нідзе і ніколі не прыводзілі да жаданага выніку.**



Бог вінаробства Дыяніс за выратаванне свайго сябра і настаўніка Сілена прапанаваў фрыгійскаму цару Мідасу ва ўзнагароду любы дар, які той пажадае. Мідас папрасіў, каб усё, да чаго б ён ні дакрануўся, ператваралася ў золата. Пажаданне адразу ж было выкананае. Мідас загадаў зладзіць баль з нагоды свайго новага дару. Але калі ён узяўся за ежу і пітво, яны ператварыліся ў золата, з-за чаго Мідас не мог ні есці, ні піць.

У 1994 годзе ролю Дыяніса ўзяло на сябе беларускае грамадства, дакладней, тая яго частка, якую сёння прынята называць «большасцю». Яна («большасць») не толькі абрала сабе выратавальніка, але і надала яму правы аднаасобна прымаць любыя рашэнні.

Выратавальнік падкасаў рукавы ды ўзяўся за справу. Дваццацігадовы вынік сваёй дзейнасці ён ахарактарызаваў наступным чынам: *«Беларусь состоялась как государство, которое уверенно смотрит в будущее»*.

Наконт упэўненасці можна і паспрачацца. Але што сёння не выклікае разнагалоссяў, дык гэта ацэнка здольнасці беларускай дзяржавы браць на сябе абавязкі і выконваць іх. Тут напрошваецца прамая аналогія з міфічным фрыгійскім царом. Усё, да чаго дзяржава дакранаецца, ператвараецца не тое каб у золата, але ў знаёмую ўсім нам субстанцыю, ад якой так і патыхае эканамічнай неэфектыўнасцю.

## Сродкі вылучылі — сродкі асвоілі

Амерыканскія даследчыкі Джэральд Хельман і Стывен Ратнер увялі ў паліталогію паняцце «дзяржава, якая не адбылася» (англ. failed state). Яно ўжываецца для пазначэння дзяржавы са слабым і неэфектыўным цэнтральным урадам, што фактычна не кантралюе вялікую частку дзяржаўнай тэрыторыі. Дзяржава, якая не адбылася, з'яўляецца прадуктам распаду дзяржаўных структур, яны адказваюць за падтрымку правапарадку, што правакуе анархічныя формы ўнутранага гвалту. У якасці прыкладу згадаю Самалі, Афганістан, Дэмакратычную Рэспубліку Конга.

Здавалася б, што агульнага ў Рэспубліцы Беларусь і Самалі? Структур, якія адказваюць за падтрыманне правапарадку, у нас поўны камплект. Яны ўсюдыісныя, — адпаведна, эфектыўныя. Паспрабуйце ў цэнтры горада з сябрамі паплясканць у ладкі. Былі ў нас такія разумнікі, толькі дзе яны зараз?

Аднак у лістападзе з падачы адзінага палітыка (АП) нечакана высветлілася, што ў Беларусі маюцца не падкантрольныя дзяржаве зоны. І гэта не офісы апазіцыйных партый. З апошнімі ў дзяржавы ніякіх праблем якраз няма. Гаворка ў першую чаргу ідзе пра прамысловыя прадпрыемствы, якія спецыялізуюцца на перапрацоўцы драўніны. Дзяржаўныя, між іншым, прадпрыемствы!

Пра тое, што на тэрыторыі дзяржаўных дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў пад выглядам вырабу пламатэрыялаў наладжана масавая вытворчасць стратаў і крэдыторскай запазычанасці, стала вядома не ўчора. Таму і з'явіўся ў лістападзе 2007 года ўказ № 529 «Аб некаторых мерах па развіцці дрэваапрацоўчай прамысловасці». Указ прадугледжваў аказанне дзяржпадтрымкі дзевяці дрэваапрацоўчым прадпрыемствам на суму больш за 500 мільёнаў еўра. У 2010 годзе аб'ём дзяржпадтрымкі быў павялічаны яшчэ на 178,9 мільёна еўра.

Такія значныя валютныя сродкі планавалася асвоіць за два гады. Праца закіпела. Сродкі асвоілі, але чаканых вынікаў не атрымалі. У 2012 годзе для паскарэння працэсу мадэрнізацыі былі прапанаваны нестандартны ход. Крэатыўныя чыноўнікі прапанавалі забараніць звальняцца працаўнікам дрэваапрацоўчых і субпадрадных арганізацый без дазволу кіраўніцтва (Дэкрэт №9).

## «Мы» — гэта хто?

Каб і далей рухацца наперад, мне спатрэбіцца дапамога Вікіпедыі: «тэхналагічны ўклад — сукупнасць тэхналогій, характэрных для пэўнага ўзроўню развіцця вытворчасці».

Спецыялісты вылучаюць 6 тэхналагічных укладаў (адлік вядзецца ад пачатку прамысловай рэвалюцыі XVIII стагоддзя). Які ўклад асвойвае Беларусь пад кіраўніцтвам АП? Аднак значна на гэта пытанне адказаць складана, але дрэваапрацоўка — больш чым на трэці не цягне. Часавыя рамкі панавання трэцяга тэхналагічнага этапу — 1880–1930-я гады. Гэта быў час буйных манаполій. Як тут ні прыгадаць схільнасць беларускай дзяржавы вырашаць эканамічныя праблемы шляхам стварэння холдынгаў!

Але пакуль у Беларусі спрабуюць запусціць імпартныя лініі па вытворчасці фанеры, перадавыя краіны асвойваюць нанатэхналогіі — г. зн. пераходзяць ад пятага тэхналагічнага ўкладу да шостага.

Усе краіны можна ўмоўна падзяліць на перадавыя і тыя, што даганяюць. Першыя генеруюць інавацыі, колькасць якіх з часам і спараджае новую якасць, г. зн. чарговы тэхналагічны ўклад. Другія збіраюць крошкі з чужога інавацыйнага стала і за кошт гэтага спрабуюць дагнаць, а пры наяўнасці палітычных (імперскіх) амбіцый — перагнаць першых. Таму другія ўвесь час знаходзяцца ў рэжыме мадэрнізацыі, якая даганяе, і гэты рэжым заўсёды ўсталёўваецца зверху.




Адсюль паўстае патрэба ва ўладнай «вертыкалі». Але вертыкальны прынцып арганізацыі жыцця спараджае адміністрацыйную эканоміку савецкага тыпу. Яна адрозніваецца ад рынкавай эканомікі гэтак жа, як жывы арганізм ад механізму. Арганізм здольны самастойна развівацца і ўдасканальвацца, а механізм — толькі выконваць прымітыўныя функцыі.

Савецкая эканоміка, на думку эканаміста Яўсея Гурвіча, перапрацоўвала нафту ў ракеты і гіганцкія будоўлі. Яе расійскі аналаг — у замежныя рахункі і вілы, часткова — у імпартныя аўтамабілі, смартфоны і іншую драбязу. Беларуская эканоміка таксама існуе за кошт расійскай нафты. Але асноўным прадуктам яе перапрацоўкі з'яўляецца сацыяльная справядлівасць, якая вымяраецца ў доларавым эквіваленце сярэдняй зарплаты.

Замацую сказанае адпаведнай цытатай: *«Не имея природных ресурсов, мы построили социальную экономику, где на первом месте стоит забота о человеке, о том, чтобы он всегда имел работу, доступную медицину и образование, жил в мире, безопасности, чтобы был защищен в старости. Мы постоянно оказываем и будем оказывать жесткое, колоссальное давление на госаппарат, на чиновников, заставляя их служить людям, не брать чужого, вести скромный образ жизни»*.

«Мы» — гэта хто? Цытата складаецца з двух сказаў. Перачытайце першы. Здавалася б, якія тут пытанні. «Мы» — гэта прадстаўнікі ўлады, кіраўнічай «вертыкалі» і да т.п. Але пяройдзем да другой прапановы. «Мы» — гэта тыя, хто аказвае жорсткі ціск на дзяржапарат. Можа, «мы» — гэта не тыя, а той, хто аказвае ціск на дзяржапарат? Іншага тлумачэння нестасоўкі ў мяне няма. Буду ўдзячны чытачам НЧ за падказку.

Таямнічыя «мы» душаць дзяржапарат не толькі з мэтай прымусіць яго служыць людзям, і пры гэтым не красці. Ціск на апарат — важны фактар эканамічнага росту. Прынамсі, «мы» ў гэтым перакана(пераканаы).

Жыццё, аднак, падставаў для такой упэўненасці не дае. У гэтым годзе цэны на нафту ўжо спынілі рост. Адпаведна, у межах Саюзнай дзяржавы тэмпы росту ВУП зменшыліся да ўзроўню статыстычнай памылкі. Усё лагічна. У адрозненне ад арганізмаў, механічныя сістэмы не здольныя да самаразвіцця. Спробы ж здзейсніць мадэрнізацыйны рывок за кошт падвышэння адказнасці кіраўнікоў нідзе і ніколі не прыводзілі да жаданага выніку.

## Хто стварае культурны кантэкст?

Любая складаная самаарганізаваная сістэма вымушана вырашаць дзве ўзаемавыключальныя задачы: падтрымліваць стабільнасць і забяспечваць адаптаванасць да знешніх і ўнутраных выклікаў. Найболей эфектыўна задачы вырашаюцца пры замацаванні за рознымі «органамі» сістэмы. У нашым выпадку ўлада адказвае за стабільнасць, а грамадзянская супольнасць забяспечвае адаптаванасць.

Будучыня прынцыпова непрадказальная, і задача грамадзянскай супольнасці палягае ў генерацыі інавацый (тэхнічных, сацыяльных, культурных). Але для гэтага грамадзянская супольнасць павінна быць уладкавана складаным, хаатычным чынам. Пашыхтаванае ж у калоны (моладзевыя, ветэранскія і да т.п.), яно ў прынцыпе не здольнае служыць фактарам развіцця.

Скарыстаю паняцці з тэорыі гульняў: супраць гульца з выпадковай стратэгіяй не можа выйграць ніякая дэтэрмінаваная рацыянальная стратэгія, якая ўласцівая ўладзе. Шанец ёсць толькі ў альтэрнатыўнай выпадковай стратэгіі. Яе забяспечвае грамадзянская супольнасць. Нобелеўскі лаўрэат Дуглас Норт выказаў гэта наступным чынам: «У гістарычнай перспектыве, чым багацей культурны кантэкст у сэнсе прадстаўлення магчымасцяў для разнастайных эксперыментаў і творчай канкурэнцыі, тым больш шанцаў на паспяховае выжыванне мае грамадства».

Але «багацце культурнага кантэксту» ствараецца грамадзянскай супольнасцю. Дзяржава на гэта не здольная.

Яшчэ адна важная функцыя грамадзянскай супольнасці — кантроль за дзейнасцю ўлады, што прымушае яе да кіраўнічых інавацый. Пры адсутнасці знешняга кантролю ўлада лёгка ўпадае ў старэчы маразм у прамым і пераносным сэнсе.

Зноў звернемся да «тэхналагічных укладаў». Руху наперад ад укладу да ўкладу заходнія грамадствы найперш абавязаны дэмакратыі. Яны не проста рухаюцца ў будучыню, яны яе фармуюць. Працэс ідзе беспрапынна. Ніводны кіраўнік дэмакратычнай дзяржавы не дадумаецца да абвяшчэння чарговага года «пераломным».

Такі лёс аўтарытарных лідараў: не здольныя фармаваць інстытуты развіцця, яны вымушаныя браць на сябе іх функцыі. Падчас засваення Захадам трох першых тэхналагічных укладаў, аўтарытарныя лідары, здаралася, дасягалі часовых поспехаў (Пётр I, Сталін). Аднак з кожнай наступнай мадэрнізацыяй колькасць праблем расла, а магчымасць іх вырашаць памяншалася.

Але ўсё пачынаецца з усведамлення тэхнічнага адставання. Свежая цытата: *«Если мы не переосмыслим новые вызовы и угрозы, то рискуем потерять независимость не потому, что нас физически поработят, а потому, что нас завоюют технологически и идеологически, духовно»*.

Мадэрнізацыя дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў — наш адказ на спробы фізічнага заняволення. Я не буду спабарнічаць з АП у каментаванні поспехаў, дасягнутых у пераломны год.

СПРАВЫ

# З ЛЮБОЎЮ ДА ДЗЯЦЕЙ

Сяргей ПУЛЬША

**Пасольства Рэспублікі Польшча ў Мінску ўжо які год кладзе «пад елачку» падарункі дзецям. І падарункі вельмі каштоўныя. На мінулым тыдні ў Бягомлі была ўрачыста адкрытая спартыўна-забаўляльная пляцоўка ў школе-інтэрнаце для дзяцей-сірот. На гэтым тыдні польскае пасольства сумесна з беларускімі дзяржаўнымі органамі, грамадскімі і камерцыйнымі арганізацыямі краіны зрабіла першы крок да стварэння каля Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра дзіцячай анкалогіі пад Мінскам «Пансіянату Бараўляны».**




Фота аўтара

Так у праекце ўяўляецца «Пансіянат Бараўляны»



Вольга Алейнікава тлумачыць Лешаку Шарэпку і Дзмітрыю Піневічу неабходнасць праекту



Лешак Шарэпка праінспектаваў, што ж набылі за польскія грошы, і застаўся вельмі задаволены

Рэспубліканскаму цэнтру дзіцячай анкалогіі такі пансіянат жыццёва неабходны, і размова пра ягонае стварэнне ідзе ўжо не адзін дзясятак гадоў. Справа ў тым, што пры стварэнні гэтага цэнтру ў ім маглі лячыцца ў адзін момант толькі 115 дзяцей. Зараз колькасць маленькіх пацыентаў гэтага цэнтра ў месяц перавысіла 200 чалавек. Нехта з іх лечыцца ў стацыянары, а нехта прыязджае з бацькамі на лячэнне з розных куткоў Беларусі.

Тым, хто прыязджае на лячэнне, прыходзіцца сутыкацца з «жыллёвым пытаннем». Здымаць кватэру ў Мінску на час лячэння не столькі дорага, колькі жыццёва небяспечна, асабліва ў зімовы перыяд. У хворых на анкалогію дзяцей і без таго слабы імунітэт, а ездзіць кожны дзень на працэдуры туды-сюды грамадскім транспартам, поўным шкодных вірусаў, — гэта значыць, удвая рызыкаваць здароўем свайго дзіцяці. Таму ад самага пачатку было запланавана, што побач з дзіцячым анкалагічным цэнтрам пабудуюць штосьці накшталт гасцініцы. І планавалася пабудаваць такі пансіянат яшчэ ў 1990-м годзе!

Тройчы, па словах дырэктара цэнтра Вольгі Алейнікавай, планавалася такое будаўніцтва, і тройчы адкладалася. Новы праект «Пансіянату Бараўляны» ўзнік у грамадскай арганізацыі «Ротары — клуб». «Калі яны прыйшлі да мяне і паказалі гэты праект, я была вельмі захопленая, але ў душы ў ажыццяўленне праекту не верыла. Але паверыла: пасля таго, як атрымала падтрымку і ў Міністэрстве аховы здароўя, і з усіх бакоў», — сказала Алейнікава.

«Пансіянат Бараўляны» будзе ўяўляць сабой 20 мабільных домікаў, кшталту летніх, але не летніх. Праектоўшчыкі ўдасканалілі гэтыя домікі, каб у іх можна было жыць і ў зімовы перыяд. У кожным такім доміку — два пакоі, разлічаныя на два чалавекі кожны, і агульная кухня. То бок, у 20 мабільных доміках могуць пражываць 40 дзяцей з бацькамі. Усе гэтыя дамы будуць размешчаныя ў лічаных кроках ад анкалагічнага цэнтру.

Канешне, свет не без добрых людзей. «Ротары-клуб» бескаштоўна зрабіў архітэктурны праект участка, грамадская арганізацыя «Дзеці ў бядзе» шукала грошы і магчымасці ажыццяўлення праекта, завод жалезабетонных вырабаў па сабекошце падвядзе неабходныя камунікацыі, «Прыёрбанк» і «Раффайзен-Лізінг» дадуць грошай на домікі. Але першы дом, які зараз здолелі паглядзець спецыялісты і журналісты, набыты і ўжо усталяваны (праўда, пакуль што без камунікацыяў), на сродкі Пасольства Рэспублікі Польшча ў Беларусі.

Першы намеснік міністра аховы здароўя Беларусі Дзмітрый Піневіч адзначыў, што РНПЦ дзіцячай анкалогіі зараз уваходзіць у ТОР–10 такіх цэнтраў па крытэрах Сусветнай арганізацыі аховы здароўя. «На жаль, праблема дзіцячай анкалогіі і імунадэфіцытаў, — тое, чым займаецца зараз цэнтр, — не змяншаецца. Пацыентаў тут менш не становіцца, і, на жаль, мы гэтага нават не прагназуем. Ахова мацярынства і дзяцінства з'яўляецца «брэндам» дзяржавы, але гэта не толькі дзяржаўная, гэта агульнанацыянальная задача. Таму я вельмі ўдзячны ўсім тым, хто ўклаў у гэты праект не толькі свае грошы, але і сваю душу», — адзначыў спадар Піневіч.

Пералічыўшы паймення ўсіх, хто працаваў над праектам, Дзмітрый Піневіч нечакана перайшоў на беларускую мову і падзякаваў за фундатарства, выказаў словы ўдзячнасці яшчэ раз, і павіншаваў усіх з надыходзячымі Раством, Калядамі, Новым годам, пажадаў усім дабрабыту, поспехаў і, карыстаючыся тым, што ўсе знаходзіліся ва ўстанове аховы здароўя, — канешне ж, здароўя.

Спадар Лешак Шарэпка, выступаючы на прэзентацыі, у чарговы раз адзначыў, што Польшча, як сябар Еўрасаюза, павінна дзяліцца з тымі, хто мае патрэбу ў дапамозе, і нейкі працэнт ВУП Польшчы павінен быць скіраваны на гэта. Беларусь тут для Польшчы ў нечым нават у прыярытэце як суседняя краіна. Гэтая дапамога ідзе на розных узроўнях. «У нас у пасольстве не вельмі шмат гэтых грошай — гэта праграма малых грантаў. Гэта ў год каля 150 тысяч еўра. Тут мы фінансавалі праект у памеры каля 40 тысяч еўра — гэта не многа, але і не мала», — адзначыў Шарэпка.

Гэта не першы праект, які фінансуе Польшча ў Беларусі. Пасольства Польшчы закупляе абсталяванне для дзіцячых бальніц і паліклінік, дапамагае ў рамонце бальніц і дамоў-інтэрнатаў і плануе рабіць гэта надалей. І перавага і раней аддавалася, і будзе аддавацца дзецям.

«Заўсёды вельмі прыемна дапамагаць дзецям. Дзеці — гэта вельмі ўдзячныя праца, таму што яны ў будучым будуць памятаць пра гэтую дапамогу, і будаваць сваё жыццё, каб дапамагаць іншым», — лічыць пасол Польшчы ў Беларусі.

«І я б хацеў, каб вы глядзелі на наш удзел у гэтым праекце як на падарунак пад ялінку для добрых сяброў», — адзначыў Шарэпка.

«Добры падаруначак — на 40 тысяч еўра», — дадала Вольга Алейнікава.

«Мы спадзяемся, што вы зробіце гэты праект, і, можа быць, на нейкім этапе яшчэ падключымся. Але вельмі прыемна, што мы тут былі першымі, каб паказаць прыклад, як гэта рабіць для іншых добрых людзей», — адзначыў спадар Шарэпка.

Вольга Алейнікава відавочна не хавала сваёй радасці з нагоды таго, што гэты праект усё ж пачаўся, і, можа быць, паспяхова скончыцца ў 2014 годзе. «Лячэнне ў стацыянары — гэта вельмі дарагое задавальненне, на гэта трэба шмат грошай. Гэта высокія тэхналогіі. А ў нас — 4 000 шпіталізацый на год. І дзякуючы такому пансіянату, я мяркую, недзе тысячу дзяцей на год мы здолеем лячыць. Бо хтосьці да нас прыязджае на тры дні, а хтосьці — на месяц», — адзначыла яна.

Ізноў такі на грошы польскага пасольства, для такіх прыезджых дзяцей побач з РПЦ дзіцячай анкалогіі з'явілася дзіцячая пляцоўка.

Канешне, Вольга Алейнікава шмат казала пра грошы, але менавіта грашыма вымяраецца праект. Кіраўнік «Ротары-клуба Мінск» Юрый Будзько ж адзначыў, што такі гасцявы пансіянат — гэта тры-пяць жыццяў дзяцей на год. Менавіта столькі хворых на анкалогію і з аслабленым імунітэтам дзяцей можна выратаваць, не возячы іх з Мінску ў Бараўляны грамадскім транспартам.

І пасольства Польшчы стала першым у ратаванні гэтых жыццяў. Хто наступны?



Першы дом «Пансіянату Бараўляны» набыты на сродкі Пасольства Рэспублікі Польшча ў Беларусі





## 20 СНЕЖНЯ, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!.
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.45** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Меладраматычны серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**10.05** Меладраматычны серыял «Такое звычайнае жыццё» (Расія).
**11.05** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна).
**12.10, 14.55, 18.35** Evrovision. Без каментароў.
**12.15** Дзень у вялікім горадзе.
**13.25** Нашы.
**13.40** Серыял «Сваты-6» (Украіна).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Украіна - Расія).
**16.30** Дакументальны цыкл «Без права на дубль» (Расія).
**17.30** Меладраматычны серыял «Сэрца Марыі» (Расія).
**19.20, 00.15** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**19.50** Меладраматычны серыял «Такое звычайнае жыццё» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Нашы.
**21.55** «Лёс гігантаў».
**22.25** Крымінальны баявік «Пастка» (ЗША).
**01.00** Дзень спорту.
**01.15** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Украіна - Расія).

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсерыйны фільм.
**12.10** «Яны і мы».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўечка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Зваротны адлік».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «У наш час».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** АНТ прадстаўляе: «Чакай мяне. Беларусь».
**18.55** Поле цудаў.
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** АНТ прадстаўляе: «Вячэрні Менск».
**22.25** АНТ прадстаўляе: «Што? Дзе? Калі? у Беларусі». Фінал.
**00.10** Трылер «Крумкач».
**02.05** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** Дзённік «ХОРаШОЎ».
**09.10** «Нам і не снілася».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Жаданая». Серыял.
**12.30** «Джэймі ў сябе дома».
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.50** Дзённік «ХОРаШОЎ».
**14.00** Фільм «Прывітанне, маляня!» (Расія, 2001 г.).
**15.45** «Якія людзі!».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** Дзённік «ХОРаШОЎ».
**18.40** «Такі лёс».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Дзённік «ХОРаШОЎ».
**20.20** Фільм «Адна жанчына ці дзве» (Францыя, 1985 г.).
**22.00** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час». Працяг.
**23.55** «Ежа багоў».
**00.50** Еўрапейскі покерны турнір.
**01.40** Фільм «Вайна дыназаўраў» (Паўднёвая Карэя, 2007 г.).

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Я - целаахоўнік» (Расія).
**10.20** Меладрама «Рыфмуецца з каханнем» («Беларусьфільм»).
**12.20** Ваенны баявік «Апостал» (Расія). 7-я і 8-я серыі.
**14.25** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**15.35** Серыял «Рэальныя мальцы» (Расія).
**16.40** «Імперыя песні». На біс.
**17.15** Беларуская кухня.
**17.55** Дэтэктыўны серыял «Я - целаахоўнік» (Расія).
**18.55** Сямейная камедыя «Дзяжурны тата» (ЗША).
**20.45** Гумарыстычная праграма «Жаночая ліга. Хлопцы. Грошы. Каханне» (Расія).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** «Бітва экстрасэнсаў». Шоў-праграма (Расія).
**22.40** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**23.35** Хакей.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.30** «Дабраранак».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Год у гісторыі».
**08.20** «Творцы». Народны артыст Беларусі, рэжысёр Канстанцін Саннікаў.
**08.50** «Свет прыроды». На берагах Вялікага канала.
**09.20** «Сямейны альбом». Сям'я Карачун.
**09.35** «Трамвай у Парыж». 1-я серыя.
**10.25** «Сіла веры».
**10.55** «Волга-Волга». Мастацкі фільм.
**12.35** «Калейдаскоп».
**12.40** «Год у гісторыі».
**12.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці народнага мастака Беларусі Аскара Марыкса.
**13.20** «Аўтограф».
**13.55** «Цуды прыроды». Коста-Рыка. Кенія.
**14.20** «Настальжы». Творчы пошук праз усё жыццё. Заслужаная артыстка Беларусі Таццяна Мархель.
**14.50** «Майстры і чаляднікі». Кавалі.
**15.15** «Наш браняпоезд». 1-я і 2-я серыі.
**17.35** «Музычны майстар». Вядомы этнограф, мастак, стваральнік тэатра «Батлейка», музыка і майстар народных інструментаў Алесь Лось.
**17.50** «Рэчавы доказ». Апрычнік і Шэкспір.
**18.25** «Таямніца душы». Гродзенская семінарыя.
**18.50** «Калейдаскоп».
**19.00** «Вясёлыя рабяты». Мастацкі фільм.
**20.30** Калыханка.
**20.50** «У жніўні 1944-га». Мастацкі фільм.
**22.45** «Сіла веры».
**23.10** «Трамвай у Парыж». 2-я серыя.
**00.05** «Аўтограф».
**00.30** «Святло далёкай зоркі». Памяці народнага мастака Беларусі Аскара Марыкса.
**01.00** «Калейдаскоп».
**01.05** «Год у гісторыі».

### НТВ

**06.00** «НТБ раніцай».
**08.40, 10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**11.00** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.35** «Жыццё як песня: Мікалай Трубач».
**00.50** «Авіятары».

### МИР

**05.00** Тэлесерыял «Галоўныя ролі».
**06.35** Мультфільмы.
**07.05** Праграма «Цік-так».
**07.20** Тэлесерыял «Заручальны пярсцёнак».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.15** Мастацкі фільм.
**11.15** Праграма «Сардэчна запрашаем».
**11.45** Праграма «Рэспубліка сёння».
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.25** Тэлесерыял «Клон».
**14.10** Дакументальны фільм «У свеце каменных джунгляў».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.25** Ток-шоў «Яшчэ не разам».
**16.20** Тэлесерыял «Спадчына».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.25** Мастацкі фільм «Спартакіяда. Лакальнае пацяпленне».
**20.05** Праграма «Любімыя акцёры».
**20.30** Мастацкі фільм «Шукайце жанчыну».
**23.20** Мастацкі фільм «Сэрца маё — Астана».
**01.15** Праграма «Прыгоды Македонскай: Зроблена ў Кітаі».
**01.30** Мастацкі фільм «Хто грукае ў дзверы...».
**03.10** Тэлесерыял «Клон».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**18.00** «Ранча», серыял: 32 серыя.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Дзіўны свет ката Філімона».
**19.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**19.15** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Агляд медыяў.
**19.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Агляд падзеяў культуры.
**19.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Дэвайс.
**19.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Навіны.
**19.40** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.50** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: рэпартаж Алеся Залеўскага.
**20.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок: Навіны.
**20.25** Невядомая Беларусь: «Еўрапейскі баль», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Дом», серыял: 15 серыя.
**22.50** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).

## 21 СНЕЖНЯ, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**07.10** Камічная фантазія «Той самы Мюнхгаўзен» (СССР). 1-я серыя.
**08.30** Існасць.
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Зямельнае пытанне.
**09.35** Камедыйны серыял «Калі ў вас няма цёткі...»(Расія). Заключныя серыі.
**11.30** Заўтра - гэта мы!.
**12.10** Здароўе.
**13.00** Усё як мае быць!.
**13.35** Нашы.
**13.45** Таямніцы следства.
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Дакументальны цыкл «Без права на дубль» (Расія).
**16.35** Давярай і правярай.
**17.00** Гісторыя «Славянскага базара».
**18.35** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**19.10** Прэм'ера! Меладрама «Палюбоўнік для Люсі» (Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.40** Фантастычны трылер «Першапачатковы код» (ЗША).
**23.25** Дзень спорту.
**23.35** Камедыйны серыял «Калі ў вас няма цёткі...» (Расія). Заключныя серыі.

### Н

**07.00** «Суботняя раніца».
**08.00** , 09.00 Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі». Новыя прыгоды.
**09.20** «Здароўе».
**10.30** «Смак».
**11.10** «Ідэальны рамонт».
**12.15** «Разумніцы і разумнікі».
**13.00** Суботні «Ералаш».
**13.15** Фільм «Восеньскі марафон».
**15.00** Прэм'ера. «Паляванне на шпільках».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Абмен жонкамі».
**17.30** «Бацькоў у школу!».
**18.40** «Хвіліна славы. Дарога на Алімп!».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** АНТ прадстаўляе: «Я спяваю!» Гала-канцэрт.
**23.35** «Што? Дзе? Калі?».
**00.50** Фільм «Срэбная страла».

### СТВ

**06.00** «Next-3». Серыял.
**07.40** Фільм «Адна жанчына ці дзве» (Францыя, 1985 г.).
**09.25** Дзённік «ХОРаШОЎ».
**09.30** «Чыстая праца».
**10.30** «Уявіце сабе».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Прыгоды дылетанта».
**12.40** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.40** Дзённік «ХОРаШОЎ».
**13.45** Фільм «Кур'ер» (СССР, 1986 г.).
**15.20** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** «Дзіўная справа».
**18.25** Дзённік «ХОРаШОЎ».
**18.30** СТБ прадстаўляе: інтэлект-шоў «Разумней не прыдумаеш».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Пралятаючы над гняздом зязюлі» (ЗША, 1975 г.).
**22.45** «Зорны рынг. Новы сезон.
**00.00** Фільм «Руі Блаз» (Францыя, 2002 г.).
**01.50** «Глядзець усім!».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.20** Мультфільмы.
**08.20** Фільм-казка «Фініст - Ясны Сокал» (СССР).
**09.40** Тэлебарометр.
**09.45** Лірычная камедыя «Тыя, што не паддаюцца» (СССР).
**11.20** Беларуская кухня.
**12.00** «СуперІнтуіцыя. Бітва палоў». Забаўляльная шоў-праграма (Расія).
**13.10** «Бітва экстрасэнсаў». Шоў-праграма (Расія).
**14.20** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**15.35** Гумарыстычная праграма «Жаночая ліга. Хлопцы. Грошы. Каханне» (Расія).
**16.10** Крымінальная камедыя «Бязлітасныя людзі» (ЗША).
**18.00** «Імперыя песні». Народнае караоке-шоў.
**19.15** Ваша лато.
**19.55** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.15** Цудоўная сямёрка. Другі эпізод. Фігурнае катанне.
**20.55** Тэлебарометр.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Фантастычная камедыя «Эвалюцыя» (ЗША).
**23.10** «СуперІнтуіцыя. Бітва палоў». Забаўляльная шоў-праграма (Расія).
**00.10** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**01.00** Хакей. Чэмпіянат свету U20. Дывізіён 1. Латвія - Беларусь.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Абіцель душы».
**08.35** «Кожны мае права быць розным».
**09.00** Дзіцячы фільм. «Прынц і жабрак».
**10.25** «Лаўрышава». Дакументальны фільм.
**10.45** «Пра тое, што помню і люблю». Народная артыстка Расіі Ніна Ургант.
**11.10** «Наперад у мінулае».
**11.35** «Калейдаскоп».
**11.45** «Дзень Еўфрасініі». Пра жыццё заступніцы і асветніцы зямлі беларускай.
**12.10** «Край белавежскі». Дакументальны фільм пра старадаўняе беларускае мястэчка Камянец.
**12.25** «Неразгаданыя людзі». Дакументальны фільм аб трагічным лёсе Максіма Гарэцкага.
**13.00** Прэм'ера. «Лёс. Рэжысёр Сяргей Лазніца». Дакументальны фільм.
**13.25** «Мост». Дакументальны фільм пра масты Пецярбурга.
**13.55** «Я чуў, як зямля стагнала...». Пра старшага палітрука Гарадзецкага партызанскага атрада Пятра Сільвестравіча Равякова.
**14.25** «Сола для трубы». Дак. фільм пра вядомага музыканта Э.Рознера.
**15.15** «Карані».
**15.40** «Плошча мастацтваў». Актрыса, заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Вера Кавалерава.
**16.15** «Ад усяго сэрца...» Канцэрт да 60-годдзя Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы імя Р.Шырмы.
**17.10** «Калейдаскоп».
**17.20** «Прынцэса Марыя Банапарт». 1-я і 2-я серыі.
**18.55** «Калейдаскоп».
**20.30** Калыханка.
**20.50** Сусветнае кіно. «Салодкае жыццё».
**23.35** «Без права на дубль». Ніка Турбіна.
**00.20** «АРТиШОК». Фотамастак Ігар Саўчанка.
**00.50** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.25** Серыял «Дарожны патруль».
**08.00, 10.00, 13.00** Сёння.
**08.20** «Агляд».
**08.50** «Выратавальнікі».
**09.25** «Справа густу».
**10.20** «Галоўная дарога».
**10.50** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.20** Серыял «Груз».
**16.50** «Лепшы горад Зямлі».
**17.35** «Вочная стаўка».
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** «Цэнтральнае тэлебачанне».
**19.50** «Новыя рускія сенсацыі».
**20.55** «Ты не паверыш!».
**21.55** «Выспа».
**23.25** Вострасюжэтны фільм «Шхера 18».
**01.00** «Прамень Святла».

### МИР

**05.00** Мастацкі фільм «Таварыш песня».
**06.20** Мультфільмы.
**07.50** Праграма «Таямніцы Эрмітажа». 7 выпуск.
**08.05** Праграма «Мільён пытанняў пра прыроду».
**08.20** Праграма «Эксперыментатары».
**08.35** Праграма «Мар! Дзейнічай! Будзь!».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Праграма «Свет Спорту».
**09.40** Праграма «Даведнік».
**10.05** Праграма «Зроблена ў СССР».
**10.30** Мастацкі фільм «Стары знаёмы».
**12.05** Мастацкі фільм «Новы год у лістападзе».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.10** Мастацкі фільм «Гардэмарыны, наперад!».
**20.30** Праграма «Навіны Садружнасці. Культура».
**21.15** Мастацкі фільм «Калядны анёл».
**23.00** Мастацкі фільм «Новыя амазонкі».
**00.45** Праграма «Таямніцы Эрмітажа».
**01.00** Мастацкі фільм «Новы год у лістападзе».
**04.00** Дакументальны фільм «3 нагоды».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.25** Невядомая Беларусь: «Еўрапейскі баль», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**08.55** Аб'ектыў.
**18.00** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**18.15** «Сыс пра Сыса», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Пацукі».
**19.00** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**19.25** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Слуцкія паясы.
**19.35** «Кар'ера Нікодэма Дызмы», серыял: 2 серыя.
**20.25** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Суботні сеанс: «Завітай да мяне ў сне», маст. фільм, 1996 г., Польшча.
**22.30** «Трэці афіцэр», дэтэктыўны серыял: 11 серыя.
**23.25** МакраФон: «Minsk-Mixt–2008»: канцэрт гурта «Svet Boogie Band».
**23.35** Аб'ектыў.

## 22 СНЕЖНЯ, НАДЗЕЛЯ

**1 БЕЛАРУСЬ**

**07.50** Камічная фантазія «Той самы Мюнхгаўзен» (СССР). 2-я серыя.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.35** Камедыйная меладрама «Француз» (Расія).
**11.35** БеларусьLIFE.
**12.15** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**12.40** Каробка перадач.
**13.15** «XXL WOMAN TV». Жаночы часопіс.
**13.45** Terra incognita. Беларусь невядомая.
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Медычныя таямніцы.
**16.10** Evrovision. Вынікі тыдня.
**16.25** Давярай і правярай.
**17.00** Прыгодніцкая драма «Белы палон» (ЗША).
**19.10** Лірычная камедыя «Моцны шлюб» (Расія).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.35** Трылер «Калі тэлефануе незнаёмец» (ЗША).
**00.15** Камедыйная меладрама «Француз» (Расія).

**АНТ**

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00** , 09.00 Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.50** «Фазэнда».
**11.25** «Вясельны перапалох».
**12.10** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**13.15** Прэм'ера. «Раманавы».
**14.20** Фільм «Чаплін».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Фільм «Чаплін». Працяг.
**17.40** «Рассмяшы коміка».
**18.50** «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Ледавіковы перыяд».
**00.15** Фільм «Аднойчы ўвечар у цягніку».

**СТВ**

**06.00** «Next-3». Серыял.
**07.35** Фільм «Пралятаючы над гняздом зязюлі» (ЗША, 1975 г.).
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Шумны дзень» (СССР, 1960 г.).



**14.35** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Фільм М.Задорнава «Бацькі і дзеці».
**17.40** «Аўтапанарама».
**18.10** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень».
**20.40** Фільм «Размаляваны вэлюм» (Кітай - ЗША - Канада, 2006 г.).
**23.00** «Прафесійны бокс».
**00.05** Фільм «Чэ Гевара» (ЗША, 2006 г.).
**01.30** «Дакументальны праект»: «Уся праўда пра Вангу».

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.25** Мультфільм «Казка пра цара Салтана».
**08.30** Фільм - дзецям. «Казка пра Зорнага хлопчыка» («Беларусьфільм»). 1-2 серыі.
**10.40** Тэлебарометр.
**10.45** Сямейная камедыя «Дзяжурны тата» (ЗША).



**12.40** Фантастычная камедыя «Эвалюцыя» (ЗША).
**14.40** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**15.50** Гумарыстычная праграма «Жаночая ліга. Хлопцы. Грошы. Каханне» (Расія).
**16.35** Футбол. Чэмпіянат свету-2014.
**17.05** Спартовая камедыя «Рыкі Бобі: Кароль дарогі» (ЗША, 2006 г.).
**19.15** Суперлато.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Баявік «Знайсці забойцу» (ЗША).
**23.05** Гумарыстычная праграма «Жаночая ліга. Хлопцы. Грошы. Каханне» (Расія).
**23.40** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**00.30** Спорт-кадр.

**3 БЕЛАРУСЬ**

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Таямніца душы».
**08.35** «Кожны мае права быць розным».
**09.00** «АРТиШОК».
**09.35** «Друзей моих прекрасные черты». Рэжысёр Валерый Раеўскі.
**10.05** «Легенды Нясвіжскага замка». Дакументальны фільм.
**10.45** «Найменні і вобразы». Гісторыя ткацтва на Беларусі.
**11.00** «Росчырк часу». Мастакі Тацціяна і Юрый Рудэнкі.
**11.10** «Выратаваць і зберагчы». Навукова-папулярны фільм.
**11.40** «Калейдаскоп».
**11.45** «Прынцэса Марыя Банапарт». 1-я і 2-я серыі.
**13.20** «Калейдаскоп».
**15.05** «Без права на дубль». Ніка Турбіна.
**15.50** Дзіцячы фільм. «Прынц і жабрак».
**17.10** «Культпрасвет».
**17.40** Сусветнае кіно. «Салодкае жыццё».
**20.30** Калыханка.
**20.50** «Золата». Сольны канцэрт Іскуі Абалян.
**22.10** «Культпрасвет».
**22.40** «Адэль». Спектакль Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі па твору Е.Таганава.
**00.50** «Калейдаскоп».

**НТВ**

**06.25** Серыял «Дарожны патруль».
**08.00, 10.00, 13.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.20** «Дачны адказ».
**11.25** «Паедзем, паямо!».
**11.55** «Цуд тэхнікі».
**12.30** «Першая перадача».
**13.20** Серыял «Груз».
**16.45** «Лепшы горад Зямлі».
**17.35** «Следства вялі...».
**18.25** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**19.50** Фільм «Прыднястроўе: рускі фарпост».
**20.50** Фільм «Ганчакі: Бракаваныя ўцёкі».
**00.20** «Школа зласлоўя».

**МИР**

**05.00** Мастацкі фільм «4:0 на карысць Танечкі».
**06.35** Мультфільмы.
**07.50** Праграма «Таямніцы Эрмітажа».
**08.05** Праграма «Ведаем рускую».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Праграма «Зямля і неба».
**09.35** Праграма «Прыгоды Македонскай: зроблена ў Кітаі».
**09.50** Праграма «Са свету па нітцы».
**10.10** Мастацкі фільм «Колер шафрана».
**13.10** Мастацкі фільм «Іншы».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.10** Ток-шоў «Яшчэ не разам».
**15.45** Тэлесерыял «Запіскі экспедытара таемнай канцылярыі».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**21.00** Тэлесерыял «Запіскі экспедытара таемнай канцылярыі».
**23.30** Мастацкі фільм «Няма чаго дэкларавацъ».
**01.25** Мастацкі фільм «Колер шафрана».
**04.20** Праграма «Зямля і неба».

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Пінгвінік Пік-Пок», «Прыгоды Ціўкі», «Занатоўкі натураліста».
**07.40** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 18-19 серыі.
**08.30** «Завітай да мяне ў сне», маст. фільм, 1996 г., Польшча.
**18.00** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**18.30** Моўнік (лінгвістычная праграма): Сапраўдныя назвы беларускіх гарадоў.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Пацукі».
**18.55** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.25** «Час гонару», серыял: 65 серыя.
**20.10** Дакументальная гадзіна: «Ізгої», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**21.05** Фільматэка майстроў: «Два Месяцы», маст. фільм, 1993 г., Польшча.
**23.25** «Кароль-вінароб», серыял: 9 серыя.
**00.10** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы Час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афоміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго, падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў.

| | |
|---|---|
| Гомель | (8 029) 697 82 75 Аляксандр; |
| Магілёў | (8 029) 930 79 22 Міхась; |
| Мінск | (8029) 178 31 68 Вольга; |
| Бабруйск | (8029) 628 75 01 Вольга; |
| Слуцк | (8029) 364 42 60 Зінаіда. |

## Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты — 2000 руб., аднаго месяца — 8000 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. +375 29 986 38 05**

ф. ПС 112

БЕЛПОЧТА

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐ № ______ (вход, по карте отправки)

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

# Для тых, хто прымае рашэнні!

Новы ЧАС

**www.novychas.info**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ______

Кассир Всего ______

КУЛЬТ АСОБЫ

# ДЗЕНЬ ПЕРШАГА ПРЭЗІДЭНТА

*Алег НОВІКАЎ*

**Рэлізам кінабіяграфіі Нурсултана Назарбаева і пачаткам канструкцыі яго маўзалея Казахстан адсвяткаваў Дзень першага прэзідэнта.**




1 снежня на экраны казахскіх кінатэатраў выйшаў новы фільм з кінаэпапеі пра жыццёвы шлях прэзідэнта. Гэта другая частка задуманай трылогіі пад умоўнай назвай «Шлях Лідара». Першая называлася «Неба майго дзяцінства» і распавядала пра маладыя гады Елбасы. Другая частка прысвечаная юнацтву Нурултана.

Па сюжэту, ён кідае родны аул, прыбывае ў намётавае мястэчка — будучы горад Цеміртаў. Сярод працоўных абвяшчаюць набор студэнтаў для навучання металургічнай справе ў горадзе Днепрадзяржынску, і герой з кампаніяй таварышаў адпраўляецца на Украіну. Пасля Украіны герой вяртаецца ў Цеміртаў і пачынае працаваць на будаўніцтве металургічнага камбіната. Заводзіць сям'ю. Сюжэт фільма завяршаецца на атрыманні Назарбаевым чарговай партыйнай пасады. Такім чынам, стваральнік стужкі рэжысёр Рустэм Абдрашоў падараваў гледачам надзею, што кінапраца можа атрымаць працяг.

Як і трэба было чакаць, афіцыёз даў самую высокую ацэнку карціне. Адна з афіцыйных газет: «Фільм паказвае праўдзівыя моманты. Лёгка верыш, што ўсё так і было: як будучы прэзідэнт ваяваў з несправядлівасцю і як у выніку выходзіў пераможцам. Карціна будзе павучальнай для маладых, паколькі паказвае, якімі высілкамі і працай дасягаюцца нават самыя малыя поспехі. Стваральнікі карціны сапраўды паказалі тую эпоху, распавялі без усхвалення і пампезнасці. Гэта рэальнае жыццё, рэальны лёс чалавека, які стаў лідарам нацыі».

У прынцыпе, крытыкі згодныя, што Абдрашоў і яго каманда з задачай больш-менш справіліся. Зняць фільм пра ўльтрапазітыўнага ва ўсіх адносінах героя вельмі складана, а такі жанр цяпер не карыстаецца інтарэсам публікі. Праўда, пра гэта аўтары карціны, напэўна, думалі менш за ўсё. Звычайна, на такія фільмы ад бюджэтнікаў, школьнікаў і студэнтаў патрабуюць хадзіць у абавязковым парадку. На іх думку, галоўны поспех рэжысёра ў тым, што фільм аказаўся лепшым за першую частку кінабіяграфіі Назарбаева «Неба майго дзяцінства».

Крытыкі далі яму вельмі нізкую ацэнку. Адзін з сайтаў пісаў: «Усе персанажы фільма выраблены з кардона і пафарбаваны, аднак не мастацкай алейнай фарбай, не легкадумнай акварэллю ці якой-небудзь пастэллю... Матэрыял аўтараў фільма — кардон і акрыл. Ніякіх табе паўтонаў, адценняў і іншай рэфлексіі… Усё працуе на стэрыльную, недасягальную, найдасканалую выяву Нурсултана — ён і варашылаўскі стралок, і ў атэстаце (паказана буйным планам) адны пяцёркі, і ў спорце першы, і на домбры іграе, і настаўніцы на стол кветкі ў вазе ставіць, і бойкі прыпыняе, і Гётэ чытае. Люба-дорага глядзець — вочы б мае не бачылі».

Прэм'ера карціны падвяла рысу пад мерапрыемствамі з нагоды Дня першага прэзідэнта. Гэтае свята з'явілася ў казахскім календары два гады таму і прысвечана 1 снежня 1989 года, калі казахі абралі свайго першага і пакуль што адзінага прэзідэнта ў гісторыі. Летась Дзень першага прэзідэнта святкавалі неяк вяла: ніхто не разумеў фармат свята. Не склаўся рытуал і на гэты раз, хаця сёе-тое эксперыментавалі шмат і вельмі арыгінальна. Так, міліцыянеры Караганды выканалі любімыя песні прэзідэнта, прафсаюзы правялі сустрэчу сваіх актывістаў з былымі аднакласнікамі Нурсултана.

Усіх пераплюнуў 60-тысячны калектыў канцэрну ENRC. Калектыў аднадушна прызнаўся ў сваёй любові да Нурсултана Абішавіча Назарбаева і выказаў гатоўнасць пералічыць аднадзённы заробак на будаўніцтва 100-метровага помніка гаранту ў Астане. Годную канкурэнцыю ENRC склаў дзяржхолдынг ФНБ «Самрук-Казына». Па словах кіраўніка ФНБ «Самрук-Казына» Умірзака Шукеева, 300-тысячны калектыў прадпрыемства «любіць Елбасы больш за маму, тату і Радзіму».

У прынцыпе, такой лавіны панегірыкаў ад бюджэтных арганізацый і дзяржаўных ВНУ можна было чакаць, аднак на гэты раз улада не абмежавалася проста калектыўнымі заявамі працоўных. Мяркуючы па ўсім, з дапамогай адміністратыўнага рэсурсу студэнтаў прымушаюць «любіць» прэзідэнта на сваіх старонках у сацыяльных сетках. Інакш цяжка растлумачыць, чаму 1 снежня ў Фэйсбуку з'явілася так шмат прааваў самых светлых пачуццяў на адрас казахскага лідара.

Вось прыклады: «1 снежня — Дзень першага прэзідэнта!». Што тут такога? Мы павінны дастойна ацэньваць працу нашага Елбасы». «Я таксама люблю прэзідэнта, і не баюся сказаць гэта. Наогул, нашага Елбасы любіць большасць казахаў. Асабліва тыя, хто жадае міру!» «Усё адно — нікога іншага, акрамя нашага Нур-ага немагчыма прадставіць на месцы нашага Елбасы. Нават падумаць пра гэта страшна». «Са святам Першага прэзідэнта, які высунуў наперад казахаў, зрабіў іх вядомымі ўсяму свету».

На фоне такой эмацыйнай хвалі крытыкам Елбасы застаецца радавацца толькі адной навіне. Казахстанскія службоўцы задумалі пабудаваць у Астане Нацыянальны пантэон — мемарыяльны комплекс, у якім знойдуць свой апошні прыстанак героі мінулага і сучаснага Казахстана, а таксама вядомыя асобы і палітычныя дзеячы краіны. Сярод сталічных архітэктараў ужо абвешчаны конкурс праектаў. Ніхто чамусьці не сумняваецца, што Назарбаеў пры жыцці выраішу пабудаваць сабе маўзалей.

Хаця да канца ідэя аказалася не прапрацаванай. Па-першае, супраць праекту выступілі вядучыя канфесіі — праваслаўныя і мусульмане. Першыя кажуць, што для хрысціянскага свету наогул не прымальныя маўзалеі або піраміды. Другія кажуць, што будаўніцтва вакол магілы — супярэчыць ісламу. Самая цікавая крытыка праекту звязаная з тэмай кланавасці на месцах. На думку некаторых, пантэон стане прыкладам для мясцовых губернатараў (акімаў), якія абавязкова пачнуць будаваць падобныя сталічнаму комплексы, толькі мясцовага значэння. Між тым, камуністы Казахстану ўжо разглядаюць ідэю перапахавання ў будучым пантэоне рэштак Уладзіміра Ульянава (калі яго, натуральна, папросяць з Чырвонай плошчы).

Экзатычнасць праекту адразу абудзіла аматараў прыколаў. Гумарысты ўжо прапанавалі ўладзе стварыць пры пантэоне службу экстранай сувязі з іншым светам. «Яе задача будзе складацца ў атрыманні каштоўных кансультацый ад выбітных душ, чые целы будуць пахаваны ў пантэоне», — гаворыцца ў заяве.

Жарты жартамі, а Дзень першага прэзідэнта пакінуў у шматлікіх казахаў сумны асадак. «Калісьці пасмейваліся з Кім Чэн Іра, пасля — з Туркменбашы. А далёкае, аказваецца, так блізка. Са святам!» — прызнаўся адзін з казахскіх палітолагаў.



**1 снежня ў Дзень першага прэзідэнта ў канцэртнай зале Астаны «Казахстан» адбылася прэм'ера мастацкіх фільмаў «Вогненая рака» і «Жалезная гара» кінаэпапеі «Шлях Лідара»**

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

«Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка заявіў, што ён катэгарычна супраць прыватызацыі Мінскага заводу колавых цягачоў з удзелам замежнага інвестара, які з'яўляецца спажыўцом. Лукашэнка фактычна адной фразай у чарговы раз перакрэсліў шматгадовыя дамоўленасці і высілкі ўрада, нягледзячы на складаную эканамічную сітуацыю ў краіне і гарачае жаданне Расіі, якое выяўляецца ў адпаведных дзеяннях, прасунуць нарэшце прыватызацыйныя праекты. Наўрад ці дзяржава не валодае інфармацыяй пра тое, што золатавалютныя рэзервы краіны змяншаюцца на вачах (мінус 1,6 мільярда долараў за год, да 6,4 мільярда долараў), існуюць праблемы з падпісаннем нафтавага балансу, а адпаведна, і з паступленнем гэтай стратэгічнай сыравіны на беларускія НПЗ, а беларускія прамысловыя гіганты губляюць расійскія рынкі.

**«Независимая газета» (Расія)**

Яму (Лукашэнку) не атрымоўваецца будаваць эканамічныя сувязі нават з дружалюбнымі дзяржавамі. Пра гэта сведчыць прыклад Турцыі. Тавараабарот паміж дзвюма краінамі па-ранейшаму застаецца, па словах Лукашэнкі, «мізэрным». А інвестыцыі турэцкага бізнэсу ў Беларусь галоўным чынам зводзяцца да куплі сэксуальных паслуг у мінскіх забаўляльных установах. Насамрэч, у беларуска-турэцкіх адносін сапраўды ёсць немалы патэнцыял. Але рэалізаваць яго цяперашняя ўлада не ў стане. Нават з улікам таго, што Стамбул не мае палітычных рознагалоссяў з Мінскам, знайсці агульную мову ў эканоміцы бакі не могуць. Турэцкі аблом — гэта яшчэ адзін прысуд архаічнай сістэме, архітэктарам якой з'яўляецца Аляксандр Лукашэнка. Эфектыўна супрацоўнічаць у яго не атрымліваецца ні з Захадам, ні з Усходам.

**«Armenia Today» (Арменія)**

Курманбек Бакіеў, што «нарабіў спраў і канцы ў ваду», цяпер працягвае, як і раней, жыць прыпяваючы. Курманбек Бакіеў вінаваты ў смерці сотняў нявінных людзей, аднак у жніўні 2010 года атрымаў беларускае грамадзянства і купіў, як кажуць, ханскі палац за 2 мільёна долараў. Сям'я Бакіевых 5 гадоў рабавала і раскрадала Кыргызстан, і да гэтага дня ўвесь народ праклінае яе, а зараз яна раздражняе беларусаў.

**«Фабула» (Кыргызстан)**

Асвятленне пратэстаў апазіцыі на Майдане ў дзяржаўных СМІ Беларусі адрозніваецца стрыманасцю і адсутнасцю звычайнай рэзкай антызаходняй рыторыкі. Мінск пралічыў, што падтрымка еўрапейскай інтэграцыі Кіева прынясе яму больш расійскіх прэферэнцый, якія прыйшлося б дзяліць з Украінай у выпадку яе ўступлення ў Мытны саюз. У сувязі з гэтым беларуская ўлада, якая не цэрпіць перамен, не стала крытычна ацэньваць украінскую рэвалюцыю.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

У Беларусі няма фармальнай буржуазнай дэмакратыі і вольнасці са свабодай слова, накшталт украінскай. Таму ў Беларусі беларускія нацыяналісты, у адрозненне ад украінскіх нацыяналістаў, у канцы 1980-х — пачатку 1990-х гадоў не пайшлі на змову з камуністамі, мясцовым дырэктарскім корпусам па пытаннях буржуазнай прыватызацыі і нацыянальнага будаўніцтва. У той час як ва Украіне былыя камуністы і камсамольцы ў змове з нацыяналістамі ціха дамаўляліся, як дзяліць дзяржуласнасць, у Беларусі тым часам Зянон Пазьняк і БНФ страшылі камуністаў, чэкістаў, дырэктараў люстрацыямі, «нюрнбергскім трыбуналам», звальненнямі, беларусізацыяй і іншымі глупствамі.

**«Хвиля» (Украіна)**

Ва Украіне ёсць «праявы лукашэнізацыі». Але мы ніколі не будзем Беларуссю! Беларусы, калі б'юць людзей, растварающа ў масе. Ва Украіне пабілі трыццаць — значыць, заўтра выйдзе на вуліцу мільён! Закрануць пяцьдзясят — будзе два мільёны! А там наадварот. Украінскае грамадства катэгарычна не прымае ўладу. А беларускае грамадства міла прымае патрыярхальны лад.

**«Главком» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РУМЫНІЯ. ЭРАТЫЧНЫ ПАТРЫЯТЫЗМ

1 снежня Румынія адсвяткавала нацыянальнае свята — Дзень румын. Натуральна, не абышлося без адпаведнай істэрыі ў СМІ. Яе ахвярай стала адна са школьніц старэйшых класаў у Бухарэсце, якая вырашыла сфатаграфавацца аголенай, прыкрыўшы сваё цела выключна нацыянальным румынскім сцягам. Гэтую фотку маладая патрыётка адразу выклала ў сецiва. Аднак гэты ўчынак меў адваротны эфект. Хутка да «фотамадэлі» прыйшла паліцыя. Цяпер дзяўчынку абвінавачваюць у знявазе нацыянальных сімвалаў, за што, паводле мясцовых законаў, можна атрымаць турэмны тэрмін да трох год пазбаўлення волі. Праўда, школьніцу можа выратаваць той факт, што фатаграфіі, фармальна, яна не рабіла. Аднак у такім разе трэба прыцягваць да суду фатографа, прозвішча якога гераіня фотасесіі ўпарта адмаўляецца называць. Увогуле, яна заяўляе, што гатовая адказаць перад Фемідай за свой учынак. Школьніца кажа, што не баіцца праваахоўных органаў, паколькі ёй рушыла выключна жаданне выказаць любоў да сваёй краіны.

**Паводле румынскай прэсы**

### КАНАДА. ПАЎНОЧНЫ ПОЛЮС БУДЗЕ НАШ!

Канада мае намер распаўсюдзіць свае тэрытарыяльныя межы ў Арктыцы на Паўночны полюс, абвясціў міністр замежных спраў краіны Джон Бэрд. «Мы патрабавалі ад нашых чыноўнікаў і навукоўцаў правесці дадатковую працу, неабходную для падачы заяўкі на ўвесь кантынентальны шэльф Канады, уключаючы Паўночны полюс», — прыводзіць яго словы прэса. Геалагічнай падставай заяўкі, якую Атава плануе падаць у Камісію ААН па межах кантынентальнага шэльфа, ёсць тое, што хрыбет Ламаносава ў Паўночным Ледавітым акіяне, на якім знаходзіцца Паўночны полюс, з'яўляецца натуральным працягам канадскага шэльфа. Амбіцыі канадцаў наўрад ці будзе вітаць Расія, якая плануе ў наступным годзе зрабіць аналагічны крок — уключыць Паўночны полюс у склад Расійскай Федэрацыі. Між тым, эксперты лічаць, што больш за ўсіх шанцаў даказаць, што хрыбет Ламаносава з'яўляецца працягам менавіта яе кантынентальнага шэльфа, у Даніі, якой належыць Грэнландыя.

**Паводле канадскай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. КАНГРЭС ПРАЦІЎНІКАЎ АНГЛІЦЫЗМАЎ

У Францыі прайшоў кангрэс праціўнікаў пашырэння ўжывання англійскіх слоў у прэсе і на тэлебачанні. Яго арганізатары лічаць, што супрацоўнікі французскіх СМІ часта абыякава ставяцца да экспансіі мовы Шэкспіра ў французскай медыйнай прасторы. Напрыклад, не перакладаюць на французскую мову назвы амерыканскіх фільмаў, і самае жудаснае — часта самі называюць свае праекты на англійскі лад. Напрыклад, на канале «Canal Plus TV» можна паглядзець праграму «Before and After». На радыё ранішнія праграмы таксама часта называюць «Morning» і г.д. Выступоўцы на кангрэсе патрабавалі скончыць такую практыку. Яны заклікалі ўлады пашырыць на гэтую сферу дзейнасці прыняты ў 1994 годзе закон, які патрабуе ўжываць у афіцыйных дакументах, рэкламе, падручніках выключна французскія тэрміны. Праўда, некаторыя аглядальнікі кажуць, што пагроза англіцызмаў — гэта выдумка лінгвістаў. Напрыклад, у суседняй Вялікабрытаніі ёсць папулярная музычная праграма «La Grande Battle» (фр.: вялікая бітва), што, аднак, не правакуе ў аўдыторыі павальнае жаданне вывучаць французскую мову. Ёсць яшчэ адзін момант. Англійскія тэрміны больш простыя і практычныя. Напрыклад, журналісту, калі ён кажа пра стомленага працай чалавека, прасцей ужыць англіцызм burn-out, чым французскі аналаг — «сіндром прафесійнай стомленасці».

**Паводле брытанскай прэсы**

### УКРАІНА. ЗАМЕСТ ЛЕНІНА — БАНДЭРА, МАХНО, ЦЯРЭШЧАНКА ЦІ ЛЕНІН



Не паспелі знесці помнік Леніну ў Кіеве як на Украіне разгарнуліся спрэчкі, што паставіць на яго месца. Помнік, нагадаем, з'яўляўся вельмі важнай часткай кампазіцыі Бесарабскай плошчы. Натуральна, крайнія правыя патрабавалі манументальна ўшанаваць Бандэру, што, аднак, у бліжэйшай перспектыве падаецца малаверагодным. Некаторыя лічаць, што лепшым выйсцем быў бы помнік Нестару Махно, якога ва Украіне сапраўды любяць, нягледзячы на яго радыкальныя погляды. Аднак на цяперашні дзень лепшыя шансы ў Міколы Цярэшчанкі — вядомага кіеўскага прадпрымальніка канца XIX стагоддзя. Цярэшчанка, які заснаваў свой бізнэс на будаўнічым буме, сапраўды вельмі шмат зрабіў для Кіева. На яго сродкі былі пабудаваныя Політэхнічны інстытут, Мастацкі музей, Уладзімірскі сабор, Тэатр аперэты… Праект будаўніцтва помніка Цярэшчанку на месцы помніка Леніну ўжо пададзены ў адміністрацыю Кіева. Таксама нельга цалкам выключаць аднаўлення на гэтым месцы помніка Леніна. Справа ў тым, што шматлікія кіяўляне разглядалі манумент як частку роднага горада. Пра гэта сведчыць тое, што за 22 гады незалежнасці ідэя ліквідацыі помніка не знаходзіла падтрымкі ў Кіеўскай радзе. Ужо заснаваны фонд збору сродкаў на аднаўленне Ільіча. Пры гэтым самі камуністы адмаўляюцца ад ідэі рэстаўрацыі манумента Леніна.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

ГЕАПАЛІТЫКА

# НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ НЕ ПРОЙДЗЕ

*Алег НОВІКАЎ*

**Іспанскія дзяржаўнікі абяцаюць каталонцам «крывавыя рэкі», калі тыя паспрабуюць правесці плебісцыт наконт абвяшчэння суверэнітэту краю.**




«Іспанія на маршы» (La Espana en marcha) — так называецца створная напрыканцы лістапада кааліцыя іспанскіх праварадыкалаў, якая аб'ядноўвае прыкладна тузін арганізацый. Увогуле, праварадыкальная субкультура ў Іспаніі — гэта сапраўдная банка са змеямі. Кожны яе сябра бачыць сябе рэінкарнацыяй Франка і аспрэчвае свой заяўлены статус з канкурэнтамі. Аднак на гэты раз усе асабістыя амбіцыі нечакана аказаліся адкладзеныя ўбок. Пайсці на кааперацыю шматлікіх фюрэраў прымусіла адзіная агульная пагроза. Яна называецца «Каталонскі рух за незалежнасць».

Пралогам стварэння кааліцыі сталі падзеі 11 верасня, калі ў Каталоніі святкуецца Дзень каталонскай нацыі. Святкавалі яго і супрацоўнікі Каталонскага інстытуту ў Мадрыдзе. У самы разгар цырымоніі ў залу ўварвалася купка людзей, якія сарвалі са сцяны каталонскі сцяг, выкінулі іспанскі штандар і пачалі скандаваць лозунгі ў падтрымку адзінства Іспаніі. Інцыдэнт стаў нацыянальнай медыйнай падзеяй, а 11 з 15 «акупантаў» (большасць з іх былі сябрамі праварадыкальнай групоўкі «Нацыянальны альянс» (AN), былі прыцягнутыя да судовай адказнасці. У выніку суд прыгаварыў усю кампанію да штрафаў.

Правакацыя абудзіла правы фланг іспанскай палітыкі, які, як правіла, самадастатковы. Тым больш, што на першай жа прэс-канферэнцыі фігуранты згаданага вышэй працэсу заклікалі ўсіх праціўнікаў каталонскага сепаратызму стварыць адзіны фронт. Практычна ўсе СМІ працытавалі аднаго з асуджаных, старшыню AN Педра Пенья. Палітык падчас прэс-канферэнцыі папярэдзіў каталонцаў: спроба выхаду краю са складу Іспаніі прымусіць іспанскіх патрыётаў узяцца за зброю. Пасля гэтых слоў пракуратура пачала справу аб забароне «Нацыянальнага альянсу».

Да партызанкі, аднак, так і не дайшло, але выступы Педра Пенья мелі наступствы. 12 кастрычніка ў Барселоне прайшла арганізаваная кансерватарамі маніфестацыя «Каталонія для ўсіх». Асобнай калонай (прыкладна 300 чалавек) па вуліцах Барселоны прайшлі прыхільнікі адзінай і непадзельнай Іспаніі. У сваім выступе іх прадстаўнік паабяцаў каталонцам «крывавыя рэкі» ў выпадку абвяшчэння незалежнасці (рэферэндум на гэты конт прызначаны на наступны год). Вылазка ўльтраправых 12 кастрычніка таксама мела праваныя наступствы. Некаторыя грамадзянскія арганізацыі патрабуюць асудзіць ультраправых за лозунг, якую яны скандавалі падчас шэсця. «Artur Mas, cámara de gas! («Артур Мас, адпраўляйся ў газавую камеру!») — крычалі маніфестанты. Артур Мас, нагадаем, лідар ураду Каталонскай аўтаноміі.

Справа, аднак, дасюль не атрымала ход. Перш за ўсё з-за таго, што паліцыя заявіла, што ніякіх экстрэмісцкіх заклікаў падчас акцыі яна не зафіксавала. Такія паводзіны выклікалі ў грамадскасці падазрэнне, што сілавікі нейкім чынам звязаныя з экстрэмістамі. Ёсць версія, што ў выпадку эскалацыі сітуацыі вакол абвяшчэння незалежнасці Каталоніі правыя могуць быць выкарыстаныя Мадрыдам для таго, каб праз радыкальныя акцыі тэрарызаваць каталонскае грамадства, правакаваць хаос.

Аднак значна большая пагроза, на думку палітолагаў, звязаная з перспектывай росту ўплыву так званай фракцыі франкістаў унутры ўрадавай Народнай партыі (PP). Як вядома, гісторыя Іспаніі пасля падзення дыктатуры Франка ў чымсьці з'яўляецца ўнікальнай. Іспанская Фаланга — афіцыйная фашысцкая партыя часоў дыктатуры — не распусцілася падчас пераходу да дэмакратыі. Замест гэтага на сваіх зборах яна вырашыла стаць нармальнай дэмакратычнай партыяй. З часам Фаланга трансфармавалася ў правацэнтрысцкую палітычную структуру. Пры гэтым усе былыя апаратчыкі Фалангі, адпаведна, сталі на словах заўзятымі дэмакратамі.

У выніку такога кульбіту Іспанія не ведае феномену моцнага праварадыкальнага руху, як, напрыклад, Францыя або Італія. Аднак, з іншага боку, у структурах PP хапае латэнтных прыхільнікаў дыктатуры Франка, якія стварылі там свой унутрыпартыйны полюс і за 30 гадоў распрацавалі механізмы ўплыву на кіраўніцтва.

Такім чынам, партыйным баронам PP увесь час трэба лічыцца з франкістамі. Так, 20 лістапада фракцыя PP у парламенце завалiла законапраект аб перапахаванні цела дыктатара. На цяперашні час рэшткі Франка пахаваныя ў комплексе «Даліна палеглых», які быў пабудаваны рэспубліканцамі, узятымі ў палон падчас грамадзянскай вайны. Зараз комплекс называецца «Помнік нацыянальнага прымірэння». На думку левых і лібералаў, сімвалізаваць нацыянальнае прымірэнне «Даліна палеглых» будзе здольная, калі з базілікі св. Крыжа, якая знаходзіцца ў комплексе, вынесуць саркафаг з целам Франка. Народнікі, аднак, так не думаюць. Раней яны таксама заблакавалі праект забароны сімвалаў іспанскай дыктатуры, якую праварадыкальныя футбольныя фанаты ахвотна ўжываюць падчас матчаў.

Тэма незалежнасці Каталоніі такая ж балючая для франкістаў, як маўзалей Франка. Пра гэта сведчыць абсалютна неадэкватны крок — удзел прадстаўніка іспанскага цэнтральнага ўраду ў кастрычніцкай цырымоніі ўшанавання памяці каталонцаў — жаўнераў «Блакітнай дывізіі» (іспанскі добраахвотны корпус, які ў час Другой сусветнай вайны змагаўся на баку Гітлера). Па сутнасці, цяперашнія ідэйныя нашчадкі PP адносна каталонскай праблематыкі вельмі падобныя на падыходы Франка, які адмаўляў існаванне каталонскай нацыі або трактаваў яе як частку іспанскага народу. Новых канцэптаў кансерватары так і не прапануюць.

Падазрэнні журналістаў пацвярджаюцца. Не так даўно згаданага Педра Пенья пачалі рэгулярна запрашаць на ток-шоў на каналах нацыянальнай тэлевізійнай сеткі Intereconomia, уладальнікі якой сімпатызуюць PP. На думку прэсы, у выпадку рэалізацыі праекту правядзення рэферэндуму аб незалежнасці Каталоніі, фракцыя франкістаў можа падштурхнуць урад да сілавога сцэнару.

Аптымісты, у сваю чаргу, заклікаюць не спяшацца і як мінімум дачакацца хуткіх парламенцкіх дэбатаў наконт увядзення крымінальнай адказнасці за адмаўленне Халакосту. Калі дэпутацкая група кансерватараў прагаласуе супраць законапраекту, можна будзе ўсур'ёз казаць пра рост усплыву франкістаў, з усімі адпаведнымі наступствамі.

МЕРКАВАННЕ

# ДАНБАС СУПРАЦЬ МАЙДАНУ?

**Сённяшняя сітуацыя ва Украіне нагадвае падзеі 2004 года з той розніцай, што жыхары ўсходу Украіны вельмі неактыўна падтрымліваюць Януковіча. Пра рэакцыю на Еўрамайдан у вотчыне Партыі рэгіёнаў журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з данецкім прафсаюзным актывістам Іванам Сурынам.**




***— Як адрэагаваў Данбас на навіны з Кіева?***

— Галоўным чынам актыўнічае дэпутацкі корпус і дырэктарат. Практычна ўсе саветы буйных гарадоў асудзілі правакатараў у сталіцы і падтрымалі «Беркут» на Майдане 30 лістапада. Такія ж рэзалюцыі прынялі сходы бюджэтнікаў розных заводаў і шахтаў. Зноў у прэсе можна пачуць, што «яны майданяць, а Данбас працуе». Пры гэтым тэксты палітыкаў часта вельмі радыкальныя. Самым гучным стаў выраз Міколы Загарулькі з аблсавету. Ён закляйміў Майдан, паколькі гэта Еўропа, а Еўропу трэба баяцца, бо ў адзін цудоўны дзень дырэктарам у вашай фірме або на заводзе можа стаць мужчына з нафарбаванымі вуснамі.

***— Падаецца, што крытыка Еўрамайдану пераходзіць у крытыку Еўропы, або, дакладней сказаць, у канвеер негатыўных штампаў пра ЕС?***

— Так. І менавіта таму людзі больш асцярожна ставяцца да словаў улады. Справа ў тым, што месяц не прайшоў, як чыноўнікі і Партыя рэгіёнаў казалі адваротнае. Абяцалі, што пасля далучэння Украіны да ЕС, за што мы павінны быць удзячныя Януковічу, на ўсіх нас абрынецца мана нябесная. Такі кантраст у прамовах вертыкальшчыкаў, натуральна, выклікае недавер. Аднак галоўная прычынай пасіўнасці, я лічу, — вынікі сацыяльна-эканамічнага курсу ўраду Партыі рэгіёнаў. Відавочна, што «пакрашэння» (паляпшэнне), пра якое шмат кажуць улады, мала хто заўважыў у нашым краі. Ёсць наварочаны цэнтр Данецку, аднак, калі ад’ехаць ад вуліцы імя Арцёма (цэнтральная вуліца гораду), пабачыш тыповы сумны пейзаж: прамысловасць ляжыць, усё парэзана на метал, закінутыя пяціпавярховікі, адсутнасць дарог. Заробак у 250 долараў лічыцца прыстойным. Прычым адказнасць за гэта нясуць людзі, якія пад рознымі партыйнымі шыльдамі, кантралююць край аж з 1991 года. Яшчэ больш непакоіць людзей росквіт карупцыі. Данбас — галоўны пастаўшчык навін пра тое, як дзеці нейкіх нуварышаў нарабілі крыміналу і пасля выйшлі сухімі з вады. Вельмі часта ў малых гарадах мафія практычна падмяніла ўладу.

***— Ці магчымае паўтарэнне з’езда дэпутатаў рэгіянальных узроўняў падчас аранжавай рэвалюцыі, на якім была абвешчана ідэя стварэння аўтаноміі краю?***

— Пакуль Януковіч большменш кантралюе цэнтральную вертыкаль, думаю, усё абмяжуецца дзяжурнымі рэзалюцыямі ў падтрымку «Беркута». Калі стане зразумела, што Кіеў не ўтрымаць, выключаць такога дэмаршу нельга. Аднак відавочна, што за 9 гадоў Данбас больш інтэграваўся ў агульнаўкраінскі працэс. Ужо нікога не шакуе, калі дэпутат з Данбасу размаўляе па-ўкраінску, хаця расійская мова тут дамінуе. Пасля перамогі Януковіча шмат прадстаўнікоў данецкага клану былі накіраваныя на кіраўнічыя пасады ў розныя рэгіёны Украіны. Данецкая моладзь глядзіць украінскае MTV і ходзіць на матчы ўкраінскага чэмпіянату. Таму калі такі з’езд і адбудзецца, то толькі ў якасці нейкага тактычнага манеўру, каб шантажаваць праціўніка, дабіцца нейкіх умоў і павялічыць давер да сябе ў вачах рускамоўных. Спроба стварэння нейкай асобнай дзяржавы магчымая выключна пад дахам Масквы. Гэта будзе другое Прыднястроўе і, адпаведна, заняпад клана Ахметава.

***— З іншага боку, маштаб акцый у падтрымку Еўрамайдану ў Данбасе не вельмі вялікі.***

— Максімальна апазіцыянерам удавалася выводзіць на вуліцы каля 500 чалавек. Дэлегацыя з Данецку, якая адправілася на Майдан, таксама не вельмі вялікая. Часткова ў гэтым вінаватыя і арганізатары Еўрамайдану. Відавочна, што ніякай распрацаванай канцэпцыі працы з Поўднем і Усходам у апазіцыі няма. На старонках аранжавай прэсы папулярны міф пра тое, што Данбас — гэта рэзервацыя савецкай культуры. У дадатак усе памятаюць, што аднымі з самых папулярных слоганаў апазіцыі былі і застаюцца: «*Спасибо жителям Донбаса за президента п…са*», «Хопіць карміць Данбас» і г.д. Гэта выклікае ў жыхароў краю натуральны недавер да праціўнікаў Януковіча.

З іншага боку, палітычнае жыццё за час татальнага дамінавання ў вобласці Партыі рэгіёнаў дэградавала. Усялякае праяўленне палітычнага нонканфармізму ва ўмовах, калі ўсё кантралюецца бела-блакітнымі, небяспечнае. Нават калі размова ідзе пра смешныя бытавыя праблемы, накшталт падаткаў з месцаў прыватных прадпрымальнікаў на рынках. Само слова «палітыка» пачало асацыявацца шмат у каго са стаяннем на мітынгах за грошы.

***— Што ўяўляе сабой апазіцыя Януковічу на яго радзіме? Напрыклад, дасюль памятныя часы, калі Данбас быў сталіцай шахцёрскага руху, які нават навязваў сваю пазіцыю Кіеву.***

— Тыя часы даўно прайшлі. Прафсаюзы (у тым ліку незалежныя) упісаны ў сістэму ўлады. Вельмі часта менавіта яны выконваюць задачу пастаўкі шахцёраў на мітынгі Партыі рэгіёнаў. Затое захаваліся адносна моцныя структуры Кампартыі, якая, як вядома, апошнім часам спрабуе перахапіць у Партыі рэгіёнаў імідж палітычнай сілы, якая найбольш заўзята і паслядоўна змагаецца за далучэнне Украіны да МС. Ёсць і філіялы трох вядучых апазіцыйных партый, аднак пра іх дзейнасць можна даведацца выключна з прэс-рэлізаў. Часткова гэта тлумачыцца тым, што выбарчыя камісіі фармуюцца пад пільным вокам функцыянераў Партыі рэгіёнаў і шансаў трапіць у заканадаўчыя органы ў апазіцыі вельмі мала. Больш шансаў маюць незалежныя грамадзянскія актывісты. Яны прысутныя, напрыклад, у гарсавеце Марыупаля. Праўда, такі расклад можна патлумачыць і тым, што лідары апазіцыі таксама не вельмі цікавяцца нашым рэгіёнам. Адпаведна, сярод тутэйшых апазіцыянераў папулярна практыка паездак на акцыі апазіцыі ў Кіеў.

***— Што можа чакаць Данбас у выпадку перамогі апазіцыі?***

— Самае горшае — паўторыцца 2004 год. Кіеў проста не будзе звяртаць увагі на Данецк. Клан Ахметава ўвесь час фінансуе нейкія апазіцыйныя структуры, каб перастрахавацца на будучыню і забяспечыць сабе індульгенцыю. Па сутнасці ніхто на Еўрамайдане і не патрабуе канфіскацыі таго, што нарабавалі нашы алігархі. Максімум, патрабуюць пераглядзець вынікі прыватызацыі, што зрабіла сям’я Януковіча. Аднак хочацца быць аптымістам. Так ці інакш Майдан выклікаў спантанную хвалю росту грамадзянскай свядомасці. Гэта можна пабачыць нават у Данбасе, дзе людзі пачалі патрабаваць да сябе большай павагі ў маршрутках, на рынках, падчас размоў з міліцыянтамі. Калі на хвалі абуджэння гонару людзі пачнуць задаваць сабе простыя пытанні — хто вінаватыя ў дэградацыі Данбаса, гэта ўжо створыць умовы для разбурэння цяперашняй мадэлі палітыкі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### НЕЛЬСАН МАНДЭЛА

Легендарны праваабаронца, адзін з лідараў Афрыканскага Нацыянальнага Кангрэсу (ANC) памёр 6 снежня, выклікаўшы па ўсім свеце хвалю смутку. Безумоўна, ён быў адным з самых буйных палітыкаў мінулага стагоддзя. Яго імя стала сімвалам, які абудзіў мільярды людзей па ўсім свеце змагацца за свае грамадзянскія свабоды. Той факт, што падчас пахаванняў нябожчыка праціўнікі Рауль Кастра і Барак Абама паціснулі адзін аднаму рукі, сведчыць пра тое, што нават пасля смерці імя Мандэлы працягвае служыць справе міру. Між тым, хапае ў Мандэлы і крытыкаў. Справа нават не ў тым, што пачынаў ён як лідар экстрэмісцкай фракцыі ANC, і нават лічыўся ў Паўднёвай Афрыцы «тэрарыстам нумар адзін». Відавочна, што створаная ў Паўднёвай Афрыцы на руінах апартэіду сістэма знаходзіцца ў крызісе. Сацыяльная дыстанцыя паміж чарнаскурымі і белымі грамадзянамі захавалася, а карупцыя ў ANC пахавала надзеі абарыгенаў на сацыяльны ліфт. Усё гэта штурхае іх на шлях крыміналу і палітычнага экстрэмізму, які можа пахаваць пабудаваную па запаветах Мандэлы Паўднёвую Афрыку. Як адзначыла брытанская газета «Guardian»: «Мандэла — стары хворы чалавек, які выдатна ўсведамляў, што сам па сабе яго палітычны трыумф, яго ўзвышэнне да ўзроўню сусветнага героя, быў толькі маскай, за якой хаваецца горкая параза».

### ЯРАСЛАЎ КАЧЫНЬСКІ



Візіт лідара польскай кансерватыўнай партыі «Права і Справядлівасць» (PiS) Яраслава ў Кіеў два тыдні таму для падтрымкі Еўрамайдану выклікаў супярэчлівую ацэнку сярод аднапартыйцаў. Справа ў тым, што Качыньскі, будучы ў Кіеве, з’явіўся ў кампаніі Алега Цягнібока, лідара нацыяналістычнай «Свабоды». Кантакт такога кшталту можна лічыць нечым з серыі фантастыкі. Яшчэ тры месяцы таму падчас гадавіны так званай Валынская разні 1943 года (аперацыя бандэраўцаў супраць мірнага насельніцтва Валыні) гэтыя палітыкі палівалі адзін аднаго брудам. Качыньскі патрабаваў прызнаць падзеі на Валыні генацыдам, а Цягнібок заклікаў да знішчэння ў адказ помніка польскім жаўнерам у Львове. Цяпер унутраная апазіцыя PiS спрабуе атакаваць Качыньскага, вінавацячы яго ў падтрымцы ўкраінскага нацыяналізму. У сваю чаргу, кіраўніцтва партыі кажа, што Качыньскі проста прыехаў на Майдан у якасці госця і не ведаў праграму візіту і, адпаведна, тых, з кім будзе сустракацца.

### КІМ ЧЫН ЫН



Лідар Паўночнай Карэі аддаў загад на арышт свайго дзядзькі Чан Сон Тхэка, які лічыўся другой па ўплыву фігурай у Паўночнай Карэі. Прычым не толькі даў загад, аднак і зняважыў родзіча: Чан Сон Тхэк быў арыштаваны падчас пасяджэння партыйных функцыянераў, а яго арышт прадэманстравалі мясцовыя студыі тэлебачання. Цяжка сказаць, што за чорная котка прабегла паміж чальцамі сям’і Кімаў. Афіцыйнае абвінавачанне на адрас Чан Сон Тхэка ўключае ў сябе нават такія пункты, як «нарказалежнасць, гульні ў казіно і інтымныя кантакты з некаторымі жанчынамі». Так ці інакш, эксперты перакананыя, што ў эліце КНДР пачаліся разборкі. Іх наступствамі можа стаць нешта падобнае на 1937 год у СССР, калі пад каток рэпрэсій адправілі тысячы людзей. Аднак гэта не самы горшы варыянт. Як піша амерыканская прэса, Чан Сон Тхэк быў лідарам пракітайскай фракцыі ў Пхеньяне, і Пекін зараз вельмі занепакоены, ці захавае свой былы ўплыў над КНДР. Паколькі пракітайская групоўка мае сваіх людзей у сілавых структурах, канфлікт можа набыць любы характар. З улікам таго, што Паўночная Карэя валодае ядзернай зброяй, сітуацыя выглядае вельмі небяспечнай. Праўда, некаторыя кажуць, што вынікам канфрантацыі можа стаць калапс КНДР як дзяржавы, што для перспектывы рэгіянальнай бяспекі не так і кепска.

▸ СПАДЧЫНА

# ПАЛІТЫК І ГІСТОРЫК АЎГЕН КАЛУБОВІЧ (КАХАНОЎСКІ)

Лявон ЮРЭВІЧ

**Імя гэтага чалавека пачало выходзіць з небыцця толькі ў 1990-я гады. У савецкія часы на ім ляжала кляймо калабараната. Між тым Аўген Калубовіч зрабіў нямала для роднай Беларусі і беларушчыны.**

Іна Рытар, другая жонка Аўгена Калубовіча, сталася ягоным першым біёграфам, калі ва ўспаміне «Сын верны Маці-Беларусі» пісала:

«Аўген — сын Тодара і Мары Калубовічаў — нарадзіўся 05.03.1910 г. у мястэчку Ціхінічы Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці. Ягоны бацька быў службоўцам. Сваё маленства Аўген заўсёды ўспамінаў з пяшчотай і замілаваннем. Гадаваўся ён у вялікай сям'і — меў брата і тры сястры. Бацькі любілі дзяцей, даглядалі добра. Насупраць м. Ціхінічаў, праз раку Дабрыцу, месцілася вёска Слапішча, дзе жылі дзед і баба Калубовічы. У іхным садзе раслі салодкія сапяжанкі, духмяныя антонаўкі, а на пасецы стаялі вуллі з пчоламі. У дзедавай хаце для ўнука пастаянна меліся ласункі.

Аўген скончыў пачатковую школу ў сваім мястэчку, сямігодку ў Рэчыцы, а ў 1930 годзе — Педагагічны тэхнікум у Бабчыне. 30 траўня таго ж года быў арыштаваны за прыналежнасць да беларускай нацыяналістычнай арганізацыі Альтруістаў і прыгавораны да трох гадоў зняволення. Пакаранне адбыў у канцэнтрацыйных лагерах на Далёкім Усходзе СССР.

Вясною 1933 года вярнуўся на бацькаўшчыну. Адразу яму нават пашанцавала ўладзіцца настаўнікам пачатковай школы. На жаль, шанц трываў коратка: у красавіку 1934 года звольнілі з пасады. Некалькі месяцаў стараўся, каб аднавілі на працы. Нічога не дапамагала. Хойніцкі Раённы аддзел народнае асветы прапанаваў яму непасрэдна звярнуцца ў Наркамат асветы БССР. Трэба было ехаць у Мінск. Ехаць у Мінск? Калі сядзіш без працы, калі не маеш грошай? Што рабіць?

З бяды выручыў бацька, які ў той час працаваў у саўгасе на бровары бухгалтарам і быў у добрых адносінах з дырэктарам саўгаса Юрачкам. Бацька расказаў Юрачку пра клопаты свайго сына. Дырэктар не толькі паспачуваў, але ўзяўся дапамагчы.

Быў той Юрачка старым камуністам, сябрам Таварыства паліткатаржанаў. Ён напісаў ліст да старшыні ЦВК БССР — Аляксандра Чарвякова, якога добра ведаў з маладых гадоў. У лісце прасіў пасадзейнічаць юнаку. Даручыў Аўгену адвезці ліст у Мінск самому, а не слаць па пошце.



Яўген Калубовіч



БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА
РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

Сябру Рады БНР Спадару ...Будзьке Эдварду...

На аснове Пастановы Прэзыдыюму Рады БНР ад 23.5.1948 г. на 20 і 21 чырвеня 1948 г. склікаецца чарговая Сэсія Рады БНР з наступным парадкам дня:
1. Адчыненьне Сэсіі,
2. Прыняцьце ў Раду БНР новых сяброў,
3. Пытаньне выражэньня даверу Ураду БНР,
4. Дапыбары ў Прэзыдыюм Рады БНР,
5. Асновы й заданьні беларускае вонкавае палітыкі,
6. Чарговыя заданьні ў галіне нутранае палітыкі,
7. Дыскусія,
8. Прыняцьце пастановаў аб вонкавай і нутраной палітыцы,
9. Вольныя прапазыцыі.

Ветліва прашу Вас прыбыць на Сэсію ў Остэргофен к 9-ай гадзіне раніцы 20.6.1948 г.

З упаважненьня Старшыні Рады БНР

Сябра Прэзыдыюму Рады БНР
/А. Каханоўскі/

7.6.1948 г.
Гасподэ.

Запрашэнне на сесію. 1948 г.



Мікола Абрамчык, прэзідэнт БНР (старшыня Рады БНР у выгнанні)



Іна Рытар, жонка Яўгена Калубовіча

Паездка з лістом да А. Чарвякова завяршылася поўнай удачай: наркамат асветы аднавіў яго на пасадзе настаўніка, а Гарадскі аддзел народнай асветы прызначыў за настаўніка ў самым месце.

Ад 1934/35 навучальнага года ён працаваў у Мінску выкладчыкам беларускае мовы і літаратуры, а таксама вучыўся ў Мінскім педагагічным інстытуце. Па сканчэнні інстытута ў 1939 годзе займаў пасаду кансультанта-метадыста ў Наркамасвеце.

Адно ж, праз усе гады жыцця ў Мінску ягоная праца, вучоба, свабода заўжды ляпілі на валаску. Ён ніколі не быў пэўны, што прынясе яму наступны дзень. Некалькі разоў на год адбіралі ў яго на праверку пашпарт, а Атэстацыйная камісія, якая ў 1936–1938 гадах праводзіла атэстацыю настаўнікаў, давала аб ім адмоўную характарыстыку.

У часе Другой сусветнай вайны Аўген улучыўся ў рады змагароў беларускага нацыянальнага актыву, якія ў вельмі небяспечных умовах мужна баранілі свой народ, сваю Маці-Беларусь. Ён быў сябрам Беларускай Рады даверу (1943), сябрам Беларускай Цэнтральнай Рады, старшынёй Беларускага культурнага згуртавання, кіраўніком Аддзелу культуры.

На Другім Усебеларускім кангрэсе (1944 год) зрабіў рэферат на тэму «Аб канчальным разрыве Беларусі з Масквою і аб уневажненні маскоўскага голасу ў беларускіх справах». У рэфераце, з уласцівай для яго дакладнасцю, абаснаваў правы беларускага народу на вольную, незалежную Бацькаўшчыну».

Літаральна адразу па завяршэнні працы Кангрэсу цягніком, разам з Урадам БЦР, з сем'ямі Кушаляў-Арсенневых, Куліковічаў, Кіпеляў ды шмат каго яшчэ выехаў у Нямеччыну. Тут ён, баючыся фатальнай рэпатрыяцыі, змяніў прозвішча на Каханоўскі.

Успамінае Яніна Каханоўская, першая жонка Калубовіча:

«Я прыехала з маткай і дзвюма дзеткамі. Мы з Каханоўскім былі блізкія ўжо ў Мінску, але не жанатыя, нічога. У яго была матка і пляменніца хворая. І тады ён сказаў, што мусіць апекавацца сям'ёй Луцкевічаў і запісаў нас як сваю сям'ю. Выратаваў проста нас тады.

А як мы прыехалі ў Рэгенсбург, ужо былі паўсюль савецкія ячэйкі — па вяртанню. І тады Калубовіч змяніў прозвішча на Каханоўскі. А чаму Каханоўскі?

Мы неяк ішлі, і былі вельмі худыя, і я, і ён. Голад жа быў, недаядалі. Ён думаў [узяць прозвішча] Тараноўскі. А потым кажа — возьмем Каханоўскія, ад кахання. Ну і праўда было каханне — вельмі вялікае. Адзінае маё каханне. Яно і засталося, яно і цяпер ёсць. Заўсёды яго ўспамінаю...»

Калубовіч змяніў сваё прозвішча, але зацікаўленні засталіся тыя самыя — палітыка, гісторыя: ад 20 студзеня 1945 года ён — загадчык аддзела прапаганды і культуры Калегіі (Урада) БЦР, ад 15 жніўня — намеснік кіраўніка Беларускага нацыянальнага цэнтру. 15 жніўня 1948 года ўзначальвае Урад БНР. Адначасна займаецца адукацыйнай дзейнасцю: выкладае філалогію ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы (1945–1950), выдае тры сшыткі «Паэтычнай стылістыкі» (пад псеўданімам А. Верасень).

У ЗША эміграваў у 1950 годзе: спачатку ў Нью-Ёрк, а праз год пераехаў у Клійленд.

Пачатак 1950-х быў ва ўсіх адносінах складаным перыядам у жыцці Каханоўскага. Якраз у гэты час Мікола Абрамчык ад імя Рады БНР разам з прадстаўнікамі іншых нацыянальнасцей пагадзіўся на прапанову Амерыканскага камітэту вызвалення народаў Расіі аб стварэнні адзінага палітычнага цэнтру. Каханоўскі рэзка крытыкаваў палітыку прэзідэнта БНР. На думку прэм'ер-міністра, з Амерыканскім камітэтам, відавочна прарасійскім, русафільскім, немагчыма падпісваць аніякіх пагадненняў.

Каб займець нейкую альтэрнатыву палітыцы Абрамчыка, Каханоўскі спрабуе стварыць апазіцыю ў Радзе БНР, дзеля чаго вяртае да жыцця існаваўшую з сярэдзіны 1940-х гадоў Беларускую нацыянал-дэмакратычную партыю і арганізоўвае Аб'яднанне БНДП. Канструктыўнай апазіцыі не атрымалася, і Аўген Каханоўскі пакінуў Раду БНР.

Жыццё — новае, як прыватнае, гэтак і палітычнае, — быццам пачынала наладжвацца. Каханоўскі ўзначаліў Кліўлендскі аддзел Беларуска-амерыканскага задзіночання, разам з кампазітарам Міколам Куліковічам арганізоўваў канцэрты, святкаванні, выставы.

Толькі вялікая палітыка гэтак проста не пакідала. Хтосьці з асабістых непрыяцеляў, а мо і былых паплечнікаў па Радзе, напісаў на Каханоўскага данос, і па Кліўленду пачаў хадзіць па кватэрах беларусаў супрацоўнік FBI, распытваючы пра палітычныя сімпатыі былога прэм'ер-міністра Ураду БНР, пра магчымыя ягоныя сувязі з камуністамі. Пасля размоваў, пра недапушчальнасць агалошвання зместу якіх папярэджвалася адмыслова, з намёкамі на нью-ёркскія карані даносу, чалавек з FBI ішоў да наступнай кватэры.

Каханоўскага не выклікалі і не наведалі. Складана ўявіць, якія менавіта карцінкі з уласнага мінулага паўставалі перад ім; толькі вось палічыўшы сябе скампраметаваным, ён вырашыў, што не мае болей права ачольваць беларускую арганізацыю ў Кліўлендзе, і сышоў.

З ліста Іны Рытар да Вітаўта Тумаша (5 траўня 1957 г.):

«У нас у Cleveland'е як звычайна сярод суродзічаў: троху сварацца, дзеляцца, арганізуюцца і г. д. Я, як заўсёды, стаю ўбаку і наглядаю. Слава Богу, Аўген захапляецца сваёй працай па літаратуры і ўвесь вольны час аддае на апрацоўку яе, так што не мае часу быць зацягнутым у гэтыя не патрэбныя нікому сваркі і плёткі. Мы цешымся сваім домам і садам. Дом утульны і мае досыць месца для ўсяго. Маем асобны пакой для бібліятэкі і пакой для гасцей. Вось будзеце мець час на вакацыі, прыязджайце пагасціць і адпачыць».

Да смерці 25 мая 1987 года заставалася трыццаць гадоў. Трыццаць гадоў на чытанне, абдумванне, пісанне — асабліва пасля 1972 года, пасля выхаду на пенсію — нямала. Да вялікай палітыкі Каханоўскі болей не вернецца. Будзе іншае: успаміны пра лагеры «На Крыжовай дарозе» (1986), класічныя сёння «Айцы» БССР і іхны лёс» (1982), праца «Мова ў гісторыі беларускага пісьменства» (1974–1978), зборнік успамінаў пра Янку Купалу і Якуба Коласа.

ЦІКАВА

# ТРАГІЧНЫ ЛЁС РАРЫТЭТАЎ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У адпаведнасці з Рыжскай мірнай дамовай, савецкі бок абавязаўся вярнуць Польшчы гісторыка-культурныя каштоўнасці, якія вывозіліся з польскай тэрыторыі ў часы Расійскай імперыі. У верасні 1939 года частка гэтых скарбаў вярнулася ў СССР.**


Выстава рарытэтаў, атрыманых з СССР, у Старым горадзе ў Варшаве


Каранацыйны меч Станіслава Аўгуста Панятоўскага, вернуты з СССР


Жаўнеры германскай арміі ля помніка князю Панятоўскаму ў Гомелі, 1918 год


Габелен вялікага літоўскага падскарбія Дзмітрыя Халецкага, зроблены для яго фламандскімі майстрамі, XVI ст.


Вялікая каронная харугва Жыгімонта II Аўгуста. У 1831 годзе генералам Паскевічам вывезена ў Расію і аказалася ў Эрмітажы


Плашч караля Яна III Сабескага, падараваны каралю папам Інакенціем XI


Мундзіры і сцягі польскага войска XIX ст.

## Плата па «рыжскім рахунку»

У адпаведнасці з артыкулам XI Рыжскай мірнай дамовай ад 18 сакавіка 1921 года, Расія і Украіна павінны былі вярнуць Польшчы прадметы, вывезеныя расійскімі ўладамі з польскай тэрыторыі пачынаючы з 1 студзеня 1772 года.

Гаворка ішла пра ўсе вайсковыя трафеі (сцягі, харугвы, вайсковыя ўзнагароды, гарматы, палкавыя рэгаліі). Акрамя гэтага, вяртанню падлягалі бібліятэкі, архіўныя зборы, прадметы мастацтва. Паводле Рыжскай дамовы, не вярталіся ў Польшчу прадметы, звязаныя з беларускай і ўкраінскай культурай. У дамове таксама адзначалася, што рэчы, якія ўваходзілі ў склад калекцый (напрыклад, кнігазборы ці зборы рукапісаў) падлягалі абмену на эквівалентныя па каштоўнасці прадметы.

Для рэалізацыі прац па рэстытуцыі каштоўнасцяў з Савецкай Расіі ў Польшчу палякі стварылі адпаведную камісію. 7 кастрычніка 1921 года яе сябры на чале з Антоніем Альшэўскім пачалі працу ў Маскве. У складзе музейнай падкамісіі працавалі дырэктары музеяў у Львове і Кракаве Аляксандр Чалоўскі і Фелікс Капера. Бібліятэчнай справай займаліся Эдвард Кунцэ з Кракава, Стэфан Рыгель з Варшавы і Эдвард Хвалевік з Познані. З архівамі працаваў Вітальд Сухадольскі. Акрамя галоўнай сядзібы ў Маскве, камісія мела прадстаўніцтва ў Петраградзе, а таксама ў іншых гарадах Саўдэпіі.

## Што ўдалося вярнуць

Да мая 1922 года ў Польшчу вярнуліся, між іншым, прадметы інтэр'еру Каралеўскага дварца ў Лазенках, вывезеныя з Варшавы падчас Першай сусветнай вайны, карціна «Бітва пад Грунвальдам» Яна Матэйкі, каля 40 іншых карцін і габеленаў (у тым ліку 15 з серыі «Патоп»), якія ў свой час упрыгожвалі кракаўскі Вавель, помнік князя Юзафа Панятоўскага, вывезены пасля Лістападаўскага паўстання 1831 года генералам Іванам Паскевічам у беларускі Гомель.

Дарэчы, для таго, каб перавезці манумент у Польшчу, у горад над Сожам прыехала адмысловая польская камісія, якая сачыла за працамі па дэмантажу і транспарціроўцы «нацыянальнай рэліквіі». У тым жа 1922 годзе ў Польшчу вярнуўся 21 малюнак Варшавы пэндзля Бярнарда Канатэля.

Калі казаць пра архівы, то бальшавікі вярнулі палякам дакументы Таварыства ўзаемнага страхавання і губернскіх устаноў, больш за 7 тысяч рукапісаў з бібліятэкі Залускіх, а таксама вялікую колькасць кніг з бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта. На Захад паехалі сеймавыя дыярыўшы, дакументы Тадэвуша Касцюшкі і Іаахіма Лялевеля.

## Пічэта vs. Другая Рэч Паспалітая

Са старажытнымі дакументамі справа рэстытуцыі ішла не так лёгка, і тут сваё слова сказаў беларускі бок. У прыватнасці, адзін з кіраўнікоў Галоўнага ўпраўлення архіўнай справы Наркамасветы РСФСР Уладзімір Пічэта яшчэ на стадыі падрыхтоўкі мірнай дамовы з Польшчай адстойваў ідэю аб тым, што ў дакуменце трэба было пазначыць пра «вяртанне дакументаў, забраных з этнічна польскіх тэрыторый», да якіх, безумоўна, не адносілася Вялікае Княства Літоўскае.

Аднак Варшава імкнулася вярнуць не толькі «каронныя» дакументы, але і «Літоўскую метрыку», якая з канца XIX стагоддзя знаходзілася ў Маскве. У сакавіку 1922 года Уладзімір Іванавіч Пічэта, рэктар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, настойваў на тым, што дакументы ВКЛ з'яўляюцца важнейшымі крыніцамі па гісторыі беларускага народа і ўяўляюць сабой здабытак сусветнай культуры.

Акрамя «беларускіх» архіваў, савецкі бок таксама адмовіўся аддаваць палякам валынскую частку «Кароннай метрыкі», якая датычылася этнічна ўкраінскіх тэрыторый. Не ўдалося палякам забраць некалькі тысяч польскіх рукапісаў з Публічнай бібліятэкі ў Петраградзе. У адной з размоў з польскімі дыпламатамі старшыня савецкай камісіі па кантролі за выкананнем умоў Рыжскага дагавора Пётр Войкаў адкрыта заявіў, што «тэхнічнае выкананне ўмовы па справе петраградскай бібліятэкі залежыць ад стабільнасці ў палітычных адносінах паміж Савецкай Расіяй і Польшчай».

## Плашч Яна Сабескага і скарбы Нясвіжа

16 лістапада 1927 года ў Варшаве была падпісана генеральная дамова паміж Польшчай і СССР па справе вяртання «польскай» культурнай спадчыны, вывезенай царскімі ўладамі. Дзякуючы гэтай дамове ў Другую Рэч Паспалітую вярнуліся карціны Філіпса Вувермана, Жана Антуана Вато, Рэмбрандта, Барталамеа ван дэр Хельста. З «польскіх рэчаў» у Варшаву з Эрмітажу вярнуўся каранацыйны меч «Шчэрбец», меч і вялікая каронная харугва Жыгімонта II Аўгуста, некалькі габеленаў з Вавеля, адзначэнні ордэну Святога Духа (у тым ліку, багата аздобленыя золатам і выявамі бурбонскіх лілій плашч) і тумбачка, падараваныя польскаму каралю Яну III Сабескаму папам Інакенціем XI і каралём Францыі Людовікам XIV Бурбонам за перамогу пад Венай. Таксама Польшча атрымала бібліятэку Браніцкіх і архіў уніяцкага мітрапаліта з Львова, вывезеныя ў 1914–1915 гадах рускімі войскамі.

У 1928 годзе ў беларускі Нясвіж і ўкраінскую Алыку, дзе знаходзіліся буйнейшыя радзівілаўскія ардынацыі, з СССР вяртаецца частка рарытэтаў, якія належалі гэтай сям'і. Нарэшце, у 1929 годзе Польшча атрымлівае апошнія культурныя каштоўнасці з савецкіх музеяў, і на гэтым працэс рэстытуцыі скончыўся. Хутка ў Варшаве была арганізавана выстава некаторых найбольш цікавых прадметаў даўніны, якія ўдалося вярнуць з Саўдэпіі.

## Скарбы едуць на ўсход

Ужо ўвесну 1939 года ў Польшчы пачалі думаць пра магчымасці эвакуацыі культурных каштоўнасцяў. Першымі вывазу падлягалі адміністратыўныя, судовыя і вайсковыя архівы. Багатыя польскія шляхецкія роды самі арганізоўвалі эвакуацыю сваіх калекцый. Напрыклад, князь Аўгусцін Чартарыйскі загадаў вывезці 5 тысяч карцін (у тым ліку работ Дзюрэра) са сваёй рэзідэнцыі пад Познанню і Кракавам у рэзідэнцыю ў Сеняве, што знаходзілася на Поўначы. Яшчэ 28 скрыняў былі накіраваны ў падвалы дома Чартарыйскіх у Варшаве. Прадстаўнік знакамітага беларускага княжацкага роду, ураджэнец беларускага Парахоньска, князь Канстанцін Друцкі-Любецкі, перад выездам на фронт (у якасці палкоўніка князь камандаваў Віленскай брыгадай кавалерыі Войска Польскага), вымушаны быў схаваць калекцыю фамільнага срэбра.

Вялікая колькасць культурных артэфактаў з малых музеяў была накіравана ў Нацыянальны музей Варшавы. Ніхто нават падумаць не мог, што вайна вельмі хутка прыйдзе і сюды. А 17 верасня 1939 года «рыжскую мяжу» перайшлі часткі Чырвонай Арміі. Найбольш каштоўныя рарытэты ў Заходняй Беларусі бальшавікоў чакалі ў Нясвіжскім замку.

Кіраўнік БССР Панцеляймон Панамарэнка ў лісце да Сталіна пісаў: «У Нясвіжы я наведаў замак князёў Радзівілаў. Ён прадстаўляе вялікую гісторыка-культурную каштоўнасць, а калі казаць пра бібліятэку, то яна проста бясцэнная». Усё ў тым жа 1939 годзе ў Мінск з замку Радзівілаў было перавезена 154 карціны, у тым ліку працы Йоана Конрада Бланка, Йоана да Фулчы, Даніэля Шульца, Барталамея Стробля. 22 снежня 1939 года Савет народных камісараў БССР забараніў знішчэння шляхецкіх сядзіб, крадзеж польскіх архіваў, вываз каштоўных прадметаў без дазволу з Мінска».

Але на тэрыторыі Віленшчыны ў першыя месяцы савецкай улады былі знішчаны калекцыі жывапісу і іншых культурных рарытэтаў, якія належалі Аляксандру Хамінскаму, Казіміру Дзяконьскаму, Уладзіславу Карчэўскаму, Людвігу Мінэйку, Францішку Аскерку, сям'ям Солтанаў і Тышкевічаў. З Пінскай каталіцкай семінарыі на ўсход было вывезена 2 вагона рарытэтных кніг, у тым ліку прыжыццёвая выданне Вальтэра. Шмат з гэтых прадметаў у 1920-х гадах былі прывезены ў Польшчу менавіта з СССР.

Спрэчка наконт спраў рэстытуцыі паміж Варшавай і Масквой працягваецца да сённяшняга дня. У расійскіх музейных сховішчах знаходзіцца значная колькасць рарытэтаў, вывезеных з тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай, а пазней і Польшчы. Датычыцца гэтая праблема і Беларусі, бо сляды шматлікіх артэфактаў часоў Вялікага Княства Літоўскага таксама губляюцца на ўсходзе. Безумоўна, лягчэй зрабіць копію і выставіць яе ў музеі. Аднак за сваё трэба змагацца, а таму пошукі страчаных у XX стагоддзі скарбаў беларускай нацыянальнай культуры трэба працягваць.

ГІСТАРЫЯГРАФІЯ

# ЯПОНСКІ ПРАФЕСАР ПРА БЕЛАРУСЬ

**Юрый МЫЦІК, доктар гісторыі**

**Улетку ў Токіа выйшла кніга вядомага японскага слявіста, прафесара Такійскай палітэхнікі Макота Хаясакі «Беларусь. Гісторыя памежжа: разважанні над мінулым Беларусі».**



У мяне няма магчымасці зрабіць разгорнутую рэцэнзію, бо не валодаю японскай мовай. Але зыходзячы з 19-старонкавага аўтарскага рэзюме, перакладзенага на беларускую мову Аляксандрам Смаленчуком, абапіраючыся на грунтоўныя спасылкі, а таксама на асабістае знаёмства з аўтарам (мы знаёмыя з Хаясакі з 1978 года), можна скласці анатацыю каштоўнага выдання, каб зацікаўленыя маглі даведацца пра кнігу, а пры патрэбе пакарыстацца і арыгіналам.

***

Макота Хаясакі з маладых гадоў цікавіўся гісторыяй усходніх і заходніх славян. Яшчэ ў 1978 годзе, будучы аспірантам у Сапара, ён працяглы час стажыраваўся ў Кракаве, займаючыся палітычнай гісторыяй Польшчы XIX стагоддзя. Тады ён жыў у адным пакоі студэнцкага інтэрната «Пяст» з беларускім мовазнаўцам з Мінску, кандыдатам філалагічных навук А. М. Булыкам, і пры нагодзе наведаў Падляшша — памежны рэгіён, дзе палякі, беларусы і ўкраінцы жывуць поруч, і якое зберагло стракаты культурны ландшафт.

Менавіта тады японскі навуковец зацікавіўся гісторыяй Беларусі. Грунтоўна ведаючы польскую мову, Хаясакі вывучаў усходнеславянскія мовы, а калі ў 1992 годзе пабыў на Украіне (Кіеў, Днепрапятроўск, Львоў), дык пачаў вывучаць і ўкраінскую ды напісаў кнігу па гісторыі Украіны. Быў неаднойчы і ў Беларусі, і зноў збіраецца ў Мінск. У 1999 годзе ў Токіа выйшла ягоная манаграфія «Адна з крыніц ідэі рэвалюцыйнай дыктатуры: рускае якабінства і польскае пытанне».

Пазней ён пераехаў у Токіа, працягваючы славістычныя студыі, і ўпрытык пачаў даследаваць гісторыю Беларусі, вынікам чаго стала кніга «Беларусь. Гісторыя памежжа…».

***

Ва ўступе да кнігі аўтар паведамляе пра першапрычыны зацікаўлення гэтай праблемай, у прыватнасці цудатворным абразом Кадзенскай Божай Маці і магнацкім родам Сапегаў (адзін з Сапегаў скраў у Ватыкане гэты абраз і перавёз у Кодню), і шляхам гістарычнай рэтраспекцыі спрабуе знайсці ключ да гістарычнай свядомасці сучасных беларусаў.

У першым раздзеле аўтар акрэслівае навуковую мэту даследавання, метады аналізу (найперш кампаратывістыку) і гаворыць пра важнасць вывучэння гісторыі Беларусі (гэта для японскага і заходняга чытача вельмі істотна, бо там звыклі мець справу з Расійскай імперыяй і Польшчай, а пра Беларусь, як і пра Украіну, часта маюць толькі прыблізнае ўяўленне).

Разгледжаныя вельмі важныя праблемы паходжання беларусаў і фармавання беларускай нацыі і дзяржавы, прааналізавана спецыфіка названага працэсу, на якую ўплывалі палітыка Расіі і Польшчы. У прыватнасці, аўтар аналізуе канцэпцыю «заходнерусізму», якая карысталася прыхільнасцю і ў савецкай гістарыяграфіі з яе ленінскай канцэпцыяй.

Адпаведна, асуджалася беларуская шляхта, якая безуважна прывязвалася да польскай, нават такія выдатныя постаці нацыянальна-вызваленчага руху, як Тадэвуш Касцюшка, Кастусь Каліноўскі ды Ігнат Грынявіцкі. Толькі на пачатку 90-х гадоў XIX стагоддзя беларуская гістарычная навука пачала адыходзіць ад ленінізму і шукаць новыя шляхі (канцэпцыя Альфрэда Майхровіча, якая, дарэчы, паўплывала і на даследаванне Хаясакі).

***

У другім раздзеле падаецца агульны нарыс беларускай гістарыяграфіі з канца XIX стагоддзя і засяроджваецца ўвага на русіфікатарскай тэорыі М. Каяловіча (1828–1891), згодна з якой беларускія землі ёсць часткай зямель царскай Расіі, а Польшча толькі анексавала тое, што ёй не належала. У наследак тэорыі заходнерусізму дзейнічаў і А. Сапуноў (1851–1924).

Але ўжо Я. Карскі (1860–1931) і асабліва М. Доўнар-Запольскі (1867–1934), на якога выявілі значны ўплыў народнікі, рабілі націск на развіццё нацыянальнай свядомасці беларусаў. Паказальна, што аўтар адзначае аналагічную з М. Доўнар-Запольскім ролю М. Грушэўскага ў развіцці ўкраінскай гістарыяграфіі. Асабліва істотную ролю адыгралі працы В. Ластоўскага (1883–1938), які сцвярджаў, што беларусы паядналіся з Полацкай Руссю, і адтуль бяруцца вытокі іхняй дзяржаўнасці, ды высунуў так званую «крывіцкую тэорыю».

У. Ігнатоўскі (1881–1931) паядноўваў тыя погляды з марксісцкай інтэрпрэтацыяй гісторыі ў БССР. Але гэтыя гісторыкі былі рэпрэсаваныя ў 30-я гады XX стагоддзя, а палітыка беларусізацыі гвалтоўна спыненая, погляды тых аўтараў былі асуджаны як «нацдэмаўшчына».

***

У трэцім раздзеле аўтар звяртаецца да праблематыкі Полацкай Русі, засяроджваецца на постацях полацкага князя Усяслава і св. Ефрасінні, звяртае ўвагу, што ў літоўскай хроніцы штучна змяняюцца імёны полацкіх князёў на літоўскія з мэтай легітымізацыі літоўскага панавання.

І яшчэ адзін прыклад «падпраўлення» гісторыі: легенда пра св. Параскеву, у аснове якой ляжыць жыціе св. Ефрасінні Полацкай. З іншага боку, агіяграфію св. Ефрасінні царская ўлада выкарыстоўвала для русіфікацыі беларусаў. Кастрычніцкая рэвалюцыя жорстка праводзіла бязбожную палітыку ваяўнічага атэізму, і толькі пасля распаду СССР былі рэабілітаваны св. Ефрасіння і ўся спадчына Полацкай Русі.

***

Чацвёрты раздзел аддадзены аналізу эпохі Рэнесансу і Рэфармацыі і звязаных з імі гістарыяграфічных канцэпцый, найперш пратэстанцкага руху, значэння Статутаў і палітычнай дзейнасці канцлера ВКЛ Льва (Лявона) Сапегі. Аналізуецца спадчына прафесараў У. Пічэты і Ю. Бардаха, прычым першы, хоць і змушаны быў ісці за ўстаноўкамі марксізму, але ягоныя працы, асабліва ў эканамічных абсягах, не страцілі свайго значэння.

Далей аўтар пералічвае заслугі Л. Сапегі, якога ў асобных працах сучасных беларускіх даследчыкаў (І. Саверчанка) усхваляюць як «нацыянальнага героя». Аднак, на наш погляд, чыннасць Сапегі вельмі супярэчлівая, асабліва калі ўзяць пад увагу яго актыўную ролю ва ўсталяванні Берасцейскай уніі 1596 года.

Варта заўважыць, што ў японскай гістарыяграфіі адсутнічае інтэрпрэтацыя Смуты ў кантэксце ВКЛ, і звычайна даследчыкі ствараюць адмоўны вобраз «польскай інтрыгі», атаясамліваюць ВКЛ з польскай экспансіяй, абапіраючыся выключна на расійскую гістарыяграфію.

***

У пятым раздзеле разглядаецца гісторыя Падляшша, дзе перапляліся традыцыі Усходу і Захаду, апісваюцца складаныя працэсы ў рэлігійным жыцці рэгіёну, дзе праводзілася ўнія, потым адбываўся пераслед уніятаў, якія ўрэшце (у 1905 годзе) масава перайшлі ў рыма-каталіцызм.

Адзін праблемны блок кнігі — гэта абраз Кадзенскай Божай Маці ў кантэксце пашырэння Берасцейскай уніі і аповесць Сафіі Косак, выдадзеная ў 1953 годзе; другі — датычыць пераследу ўніятаў расійскімі ўладамі і адлюстраванне тых падзей у аповесці лаўрэата Нобелеўскай прэміі Уладзіслава Рэйманта (1909 год). Абедзве аповесці аб'ядноўвае прагa дасягнуць кансалідацыі нацыі ў межах канцэпцыі «сучаснага паляка», абвешчанай прэм'ерміністрам Польшчы — Раманам Дмоўскім (1864–1939).

***

Шосты раздзел датычыць праблематыкі Берасцейскай уніі, пачынаючы ад місіянерскай дзейнасці Іосіфа Вільяміна Руцкага (1574–1623) і яго беатыфікацыі, стасуецца з чыннасцю ордэна базыльянаў, Замойскага Сіноду 1720 года, які прыспешыў лацінізацыю ўніяцкага абраду, а адначасова і паланізацыю. Разглядаецца рэлігійная палітыка Расійскай імперыі, якая пасля пэўных хістанняў стала адназначна жорсткай.

Аўтар засяроджваецца на Полацкім саборы 1839 года, дзейнасці епіскапа Іосіфа Сямашкі, якія выклікалі супраціў польскай эміграцыі, і найперш гісторыка Валер'яна Калінкі (1826–1886), што заснаваў у Львове «Рускі інтэрнат» для выхавання дзяцей уніятаў (чытай, украінскіх дзяцей) у польскім духу.

Калінка папярэджваў пра небяспеку русіфікацыі, пісаў пра пераслед уніятаў на Падляшшы, расстрэл царскімі войскамі вернікаў у Дрылеве і Пратуліне (студзень 1874 г.). Адначасова Калінка бачыў пагрозу германізацыі ў Познанскім ваяводстве.

Напрыканцы раздзелу аналізуецца дзейнасць слявіста з Падляшша Міколы Янчука (1859–1921), які паходзіў з сям'і ўніятаў, а неўзабаве адыграў вялікую ролю ў развіцці беларусістыкі.

***

У сёмым і восьмым раздзелах характарызуецца чыннасць вядомага мовазнаўцы, актыўнага дзеяча беларускага Адраджэння пачатку XX стагоддзя Б. Тарашкевіча (1892–1938), якая прыпадае на часы раздзелу Беларусі паміж СССР і Польшчаю і, адпаведна, сталася закладніцай палітыкі русіфікацыі і паланізацыі і арганізацыі «Грамада», якая падтрымала стратэгію Камінтэрна.

Разглядаецца палітычная дзейнасць Тарашкевіча, аналізуюцца яго працы, прысвечаныя аграрным праблемам у Польшчы і прыбалтыйскіх дзяржавах, высвятляецца гісторыя абмену Тарашкевіча на салавецкага вязня Ф. Аляхновіча (1883–1944) і яго трагічная смерць (канец беларусізацыі прывёў да знішчэння мовазнаўцы, які быў забіты НКУС у рамках так званай «Польскай аперацыі»).

Таксама надаецца ўвага каталіцкаму ксяндзу Адаму Станкевічу (1891–1949), які выкарыстоўваў беларускую мову ў набажэнстве і спрыяў развіццю нацыянальнай свядомасці беларусаў. Аўтар спыняецца на нязвычных для славянскай гісторыі сюжэтах: параўноўвае польскую палітыку з палітыкай тагачаснага кітайскага ўраду ў Манчжурыі.

***

У заключным раздзеле аўтар выяўляе агульны погляд на нацыятварэнне ў Еўропе, пачынаючы з Французскай рэвалюцыі канца XVIII стагоддзя, потым разглядаецца перыяд застою ў гісторыі СССР, узнікненне дысідэнцкага руху, выступленні беларускай інтэлігенцыі (у першую чаргу Васіля Быкава) у абарону беларускай мовы, зараджэнне новай беларускай гістарыяграфіі, якая вядзе барацьбу за незалежны погляд на мінуўшчыну.

Кніга месціць у сабе багата фатаграфій, малюнкаў, таксама восем картаў Беларусі і дае цікавы матэрыял пра яе не толькі навукоўцам, але і шырокаму чытачу.

Такім чынам, у працы японскага прафесара разглядаюцца дужа важныя і актуальныя праблемы. Свежы погляд незаангажаванага аўтара на беларускае мінулае і сёння, як ніколі, патрэбны беларусістыцы.

**Пераклад з украінскай Яўгена Лецкі**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК.** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ.** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет».
г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 1543

Падпісана да друку 13.12.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.